# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (748) ГОД XV БЕЛАСТОК 28 ЧЭРВЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## Бельская кузня настаўніцкіх кадраў

Адным з найважнейшых пытанняў у развіцці беларускага школьніцтва ў Польшчы быў, несумненна, вялікі недахоп настаўнікаў, кваліфікацыі якіх адпавядалі б узрастаючым вымаганням сучаснай школы· Як вядома, у выніку складаных гістарычных умоў, становішча ў гэтай галіне было ў той час на Беласточчыне асабліва цяжкае. Яшчэ ў 1945/46 годзе звыш 75% настаўнікаў, якія працавалі ў беларускіх школах, не мела мінімальных педагагічных кваліфікацый.

Неабходна падкрэсліць, што рашэнні партыйных улад і школьнай адміністрацыі не абмяжоўваліся толькі прызнаннем беларускаму насельніцтву права да асветы на роднай мове. На канферэнцыі, прысвечанай беларускаму школьніцтву, якая адбывалася 9 жніўня 1949 года ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку з удзелам першага сакратара Турэнца, прадстаўнікоў Міністэрства асветы і ваяводскіх адміністрацыйных улад, была звернута належная ўвага на пытанне настаўніцкіх кадраў. Тады менавіта было прынята важнае рашэнне аб арганізаванні Педагагічнага ліцэя, мэтай якога мела быць падрыхтоўка кваліфікаваных настаўнікаў для навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны.

Нямногім сёння вядома, што падрыхтоўка кадраў для беларускіх школ пачалася не ў Бельску, а ў Беластоку. Ужо ў верасні 1949 года быў арганізаваны пры беластоцкім Педагагічным ліцэі ТПД клас з беларускай мовай навучання, у якім вучылася 26 будучых педагогаў і якія ў 1950/51 школьным годзе былі пераказаны ў толькі што арганізаваны педліцэй у Бельску.

У верасні 1950 года, на падставе распараджэння Міністра асветы, былі арганізаваны паралельныя класы з беларускай мовай навучання пры Педагагічным ліцэі ў Бельску. Такое рашэнне было абумоўлена радам прычын. Лакалізацыя вучылішча ў Бельску стварала перспектыву большага і сістэматычнага прытоку кандыдатаў на настаўнікаў, а таксама магчымасць эфектыўнага выкарыстання будучых выпускнікоў у беларускіх школах, большасць якіх знаходзілася іменна на тэрыторыі тагачаснага Бельскага пав.

Цяжка пераацаніць значэнне Педагагічнага ліцэя ў Бельску для развіцця беларускага школьніцтва на Беласточчыне. На працягу 19-гадовай дзейнасці выпусціў ён сотні маладых педагогаў, якія прыйшлі на змену настаўнікам старога пакалення — людзей самаахвярных і вялікага сэрца. Сістэматычны прыток новых педагагічных сіл

(Працяг на стар. 3)



*Дзявочы квартэт з Мілейчыц «Бядронкі», І-ая ўзнагарода ў катэгорыі малых вакальных калектываў у складзе: Эля Мікульская, Люся Колас, Галя Аляксеюк, Бася Врублеўская.*



## Беларуская песня 1970



*Марыся Рэкун з Беластока, І-ая ўзнагарода ў катэгорыі салістаў.*

Прагучэла беларуская песня ў конкурсе, які назваўся «Беларуская песня 1970». Аб'яўлены восенню мінулага года, закончыўся ўжо гэты першы, цікавы па сваёй задуме, конкурс.

Пачатак як пачатак, без недахопаў не абыдзецца. Важнае, што навука не пойдзе (не можа пайсці) ў лес.

Кароткае падсумаванне конкурсу такое: у ваяводскім аглядзе ў Беластоку прыняло ўдзел 5 салістаў і 12 дуэтаў, трыё і квартэтаў разам. Хацелася напісаць замест «у ваяводскім» — у «цэнтральным» або «агульнапольскім» аглядзе, але, на жаль, першы конкурс беларускай песні абмежаваўся толькі да Беласточчыны і то нават не да ўсіх паветаў, дзе па вёсках і гарадах чуецца беларуская песня· Спа-за Беластоцкага ваяводства, з Варшавы, напрыклад, ці Гданьска не было ўдзельнікаў, хоць вядома, што там і тут спяваюць па-беларуску. Нават не ўсе паветы Беласточчыны, дзе існуюць павятовыя аддзелы БГКТ, правялі ў сябе конкурс. Прапусціў гэтае цікавае мерапрыемства сакольскі аддзел і дубровскі, вельмі неарганізавана правёў яго Беластоцкі павет, а Гайнаўскі і Бельскі пайшлі крыху, як кажуць, па «лініі найменшага супраціўлення». Іх-

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ Наш літаратар Сакрат Яновіч 10 чэрвеня правёў дзве аўтарскія сустрэчы ў Паўночным Востраве і Новым Востраве.

■ 11 чэрвеня ў Крапіўне на Дуброўшчыне адбыўся вясковы сход з удзелам кіраўнікоў культурна - асветнага аддзела ГП БГКТ — Уладзіміра Паўлоўскага і арганізацыйнага — Ліды Антанюк. Расказвалі яны аб дзейнасці Беларускага таварыства, аб ролі ў беларускім асяроддзі. На гэтым сходзе 17 асоб выразіла сваё жаданне быць членамі БГКТ. Пасля азнаямлення са зместам статута БГКТ і падпісання членскіх дэкларацый адбыліся выбары праўлення гуртка, у склад якога ўвайшлі: Ірэна Макарэвіч — старшыня, Крыстына Леўша — сакратар і Лявон Мазалеўскі — скарбнік.

■ 14-га чэрвеня бельскі аддзел БГКТ арганізаваў фэстын, прысвечаны 25-ай гадавіне перамогі над фашызмам. Даклад на гэтую тэму чытаў старшыня аддзела Мікалай Гайдук. У мастацкай частцы выступілі: харавая група сельскагаспадарчай засаднічай школы пад кіраўніцтвам настаўніка Мікалая Турковіча, хор бельскага аддзела, якім кіруе Сяргей Лукашук і школьнікі мясцовай школы пад кіраўніцтвам Станіславы Кажанеўскай. У падрыхтоўцы фэстына шмат папрацаваў дубяжынскі гурток БГКТ, які ўзначальваецца Мікалаем Раманюком (сынам Паўла).

■ 14-га чэрвеня ў Ялоўцы адбыўся арганізацыйны сход гуртка БГКТ. На ім выступіла з прамовою мясцовая настаўніца Вольга Ёська і сакратар аддзела на Беластоцкі павет Янка Цялушэцкі, якія гаварылі аб патрэбе заснавання гуртка БГКТ. Членскія дэкларацыі БГКТ падпісала 20 чалавек, якія выбралі праўленне гуртка з наступных асоб: Яўгенія Малько — старшыня, Галена Лібэрская — сакратар і Янка Валькевіч — скарбнік.

■ Гарадскі аддзел БГКТ найлепш аплачвае членскія складчыны. За першае паўгоддзе аплачана там 52% належнай гадавой сумы.

■ Рада закладовая электроўні ў Беластоку перадала 500 зл. на адрас камітэта пабудовы Рэгіянальнага беларускага музея ў Белавежы. (мх)

## Сустрэчы з «Нівай»




Афіша аб'яўляла коратка і дакладна: а гадзіне $19^{00}$ — у памяшканні клуба вёскі Койлы адбудзецца сустрэча з такім-то а такім журналістам, гэта значыць са мною.

Да гадзіны $19^{00}$ было шмат часу. Пастанавіў я выкарыстаць яго на прыватныя размовы з жыхарамі Койлаў.

Гасцінная кіраўнічка мясцовага «Клуба гаспадара» Ніна Ваўранюк запрашае мяне ў хату. Гаспадыня падае абед, збіраюцца людзі, жадаючыя пагутарыць. Развязваецца размова.

Даведваюся аб бядзе вёскі, аб яе няшчасці. Аб уплыве сёлетняй пагоды на койлаўскую гаспадарку. Азіміна загінула тут у 30 працэнтах, а ярыну зусім не засеялі. Не пасеялі зусім аўса, не пасадзілі бульбы. Можна яшчэ б было сеяць ячмень ды гарох, але падчас нашай размовы за акном безупынна ліў пракляты дождж. На грунце пасля змарнаваных азімін таксама нельга ўлезці ні з канём ні з трактарам — усё ў балоце або пад вадою. Пад вадою койлаўскія пашы, а ў стадолах ужо пуста. «Вецер толькі свішча па стадолах, — як сказаў адзін з размоўцаў, — ды няма чым карміць жывёлы».

Зразумела, сёлетняя пагода дакучыла не адным Койлам, а ўсяму ваяводству, нават усёй краіне. Але Койлам найбольш, бо грунты тут нізкія, падмоклыя, ды не меліяраваныя. Койлаўскай гаспадарцы пагражае поўная няўдача.

Наслухаўшыся, нагаварыўшыся з сялянамі Койлаў аб капрызах прыроды, з сумам і непакоем прыступаў я да спамянутай сустрэчы. У мяне тут Дні асветы кніжкі і друку, гаварыць маю аб свеце, аб культуры, аб кніжках і газетах, а ў людзей — справы шмат важнейшыя: чым карміць жывёлу, як ратаваць хлеб, як ажывіць мёртвую, затопленую вадою зямлю.

Пачынаецца сустрэча. Расказваю аб «Ніве». Кладу націск на нашыя зацікаўленні гаспадарчымі справамі. Заахвочваю да дыскусіі. Маю надзею, што ў дыскусіі прысутныя закрануць свае балючыя справы. Няхай гавораць, хаця і нямнога можам дапамагчы ім, але ж людзі ў бядзе прывыклі раіцца паміж сабою.

Людзі пачалі дыскутаваць. Не аб пагодзе аднак і не аб затопленых вадою пашах. Паслухайма:

Працяг на стар. 4

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ВЯРТАННЕ «САЮЗА — 9»

Героі найдаўжэйшага касмічнага палёту ўжо на Зямлі. Упершыню чалавек знаходзіўся ў космасе амаль 18 сутак, зрабіўшы 287 абаротаў вакол Зямлі на працягу 424 гадзін і 41 мінуты. Папярэдні рэкорд належаў амерыканскім касманаўтам, якія ў снежні 1965 г. на караблі «Джэміні—7» акружылі Зямлю 206 разоў на працягу 330 гадзін.

Значэнне палёту Нікалаева і Севасцьянава не толькі звязана з рэкордам. Гэты палёт — гэта далейшы крок да пабудовы на арбіце вялікай доўга працуючай касмічнай станцыі. Гэтаму зрэшты служыць уся датыхчасовая савецкая праграма заваёўвання космасу.

Нікалаеў і Севасцьянаў сістэматычна выконвалі праграму медыцынскіх эксперыментаў. Між іншым, даследвалі яны крывяны ціск, частату пульсу і дыханне перад і пасля мэтанакіраваных практыкаванняў з працягласцю комплексу практыкаванняў да 50 мінут.

Абодва касманаўты праводзілі навуковыя даследванні і фатаграфавалі геалагічна-геаграфічныя аб'екты.

### НЕСПАДЗЯНКА Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

У выбарах да Палаты Гмін у Вялікабрытаніі, якія адбыліся ў чацвер 18 чэрвеня, неспадзявана перамагла кансерватыўная партыя тарысаў. Партыя працы Вільсана, якая дагэтуль трымала ўладу, вымушана пайсці да апазіцыі ў парламенце. За кансерватыстаў галасавала 46,4%, а за партыю працы 43%, калі ў выбарах з 1966 года сітуацыя выглядала адпаведна 41,9% і 48%.

Чаму неспадзянка? Па-першае, у Вялікабрытаніі прынята, што аб тэрміне выбараў вырашае прэм'ер-міністр, і аб тэрміне выбараў вырашыў жа сам Вільсан, а па-другое, аж да першых падлікаў галасоў ніхто нават не сумняваўся ў тым, што Вільсан выбары выйграе. Сталася аднак зусім інакш.

Зараз свет задумваецца, чаму так сталася, чаму прайграла партыя працы? Першыя наплываючыя з Вялікабрытаніі інфармацыі сведчаць прынамсі аб трох прычынах: 1) Партыя працы не ўмела запэўніць сабе адпаведнай прысутнасці выбаршчыкаў (30% з іх не прыйшло галасаваць, лічачы, што і так выйграе выбары партыя працы); 2) Партыі Вільсана не ўдалося перацягнуць на свой бок жаночага полу; 3) выбарчая праграма абодвух партый была вельмі падобная, г. зн. неканкрэтная.

Аб выбарах у Вялікабрытаніі можна сказаць, што не толькі выйгралі тут кансерватысты, а што прайграла партыя працы.

### НАРАДА

21 і 22 чэрвеня ў Будапешце адбылася нарада міністраў замежных спраў дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору. Нарада была прысвечана абмеркаванню актуальных спраў, звязаных з падрыхтоўкай еўрапейскай канферэнцыі ў справе бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. (ак)



## БССР

### ВЫБАРЫ

Згодна з паведамленнем Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах у Вярхоўны Савет Саюза ССР аб выніках выбараў 14 чэрвеня 1970 года, дэпутатамі ў Савет Саюза Вярхоўнага Савета СССР па Беларускай ССР м.ін. выбраны: Уладзімір Мікуліч, Сяргей Прытыцкі (ад Брэсцкай вобласці), Сяргей Пугач, Аляксандра Ляўко (ад Гродзенскай вобласці), Станіслаў Пілатовіч, Васіль Хурсан (ад Гомельскай вобласці), Андрэй Грамыка, Мікалай Барысевіч, Кірыл Мазураў, Іван Сідаровіч — ад Мінскай вобласці.

У Савет Нацыянальнасцей м.ін. выбраны: Пятро Броўка, Уладзімір Быкоўскі, Уладзімір Лабанок, Пётр Машэраў, Іван Мікуловіч, Максім Танк, Іван Трацяк.

Сярод выбраных рабочыя і сяляне, дзеячы культуры і гаспадаркі, кіраўнікі партыі і ўраду Беларусі, кіраўнікі ўсесаюзнай палітыкі, як напрыклад, Грамыка, міністр замежных спраў Саюза ССР.

### НІЧЫПАР

Аб перспектывах беларускай лёгкай прамысловасці расказала журналістам яе міністр, А. Нічыпар. Прэс-канферэнцыя адбылася ў Мінску.

— За мінулае пяцігоддзе лёгкая прамысловасць Беларусі асвоіла дзесяткі новых відаў прадукцыі: жакардавыя панчохі, шкарпэткі, трыкатажныя вырабы з самых сучасных відаў сыравіны, тканіны камбінаваныя з натуральнай сыравіны і сінтэтыкі, новыя віды цёплага абутку, футры і паліто з навейшага штучнага футра і трыкатажу, новыя віды куртак, цацкі з поліэтылену і г.д.

Міністр Нічыпар расказала аб дасягненнях лёгкай прамысловасці. А вось некаторыя пытанні, з якімі звярнуліся запрошаныя на прэс-канферэнцыю журналісты беларускіх газет: што робіцца на прадпрыемствах міністэрства па падрыхтоўцы да атэстацыі прадукцыі Знак якасці? якія перспектывы развіцця льноперапрацоўчай прамысловасці? чаму ўсё яшчэ бледная гама расфарбовак тканін, асабліва шарсцяных? якія перспектывы расшырэння вытворчасці хімічных валокнаў і выкарыстання іх у вытворчасці тавараў народнага спажывання?

### ТРЭСТ

У сістэме Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі Беларускай ССР утвораны гаспадарча-разліковы спецыялізаваны трэст па будаўніцтву аб'ектаў сельскагаспадарчага водазабеспячэння: будаўніцтва групавых і магістральных водаправодаў, сажалак, вадаёмаў, водазаборных збудаванняў, помпавых станцый, дрэнажу, арашэння зямель.

### МУЗЕЙ

У мясцовасці Бялынічы адкрыты Дзяржаўны мастацкі музей імя В. Бялыніцкага-Бірулі, народнага мастака Расійскай Федэрацыі і Беларусі. У пяці залах экспануецца каля трохсот твораў жывапісу, скульптуры і графікі. Цэнтральнае месца займаюць палотны Бялыніцкага-Бірулі: «Красавік», «Лес зазеляннеў», «Лёд прайшоў», у якіх паказана непаўторная прыгожасць беларускай прыроды. (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ

Па запрашэнню старшыні Рады Дзяржавы маршала Польшчы Мар'яна Спыхальскага пабываў у Польшчы з афіцыйным візітам прэзідэнт Рэспублікі Індыі Варагагіры Ванката Гіры разам са сваёй жонкай.

### У РАДЗЕ МІНІСТРАЎ

Адбылося пасяджэнне Рады Міністраў з удзелам старшынь прэзідыумаў ваяводскіх радаў нарадовых, на якім было разгледжана выкананне важнейшых гаспадарчых заданняў у маі месяцы гэтага года і прааналізаваны прычыны невыканання некаторымі прамысловымі прадпрыемствамі планавых заданняў. Рада Міністраў накрэсліла сродкі і метады ўзмацнення кантролю і дысцыпліны выканання планавых заданняў.

### У СВЕРКУ

У Сверку адбылася афіцыйная ўрачыстасць умуравання краевугольнага каменя пад новы атамны рэактар у Інстытуце ядзерных доследаў. Будзе гэта другі польскі рэактар, працуючы ў гэтым інстытуце.

### РОЛЯ ПАРТЫІ

На варшаўскім прадпрыемстве «Урсус» адбылася нарада партыйнага актыву, прысвечаная ўздзеянню партыйных арганізацый на грамадска-эканамічныя працэсы прадпрыемства. У нарадзе прыняў удзел член Палітбюро, сакратар ЦК партыі — Рышард Стшэлецкі. Выступіў ён з прамоваю, у якой падкрэсліў вялікую ролю рабочых у радах партыі. Далей указаў ён на патрэбу намаганняў у напрамку ўмацавання ролі партыі на прадпрыемстве. Трэба зрабіць усё, каб выкараніць адмоўныя з'явы, якія аслабляюць і абніжаюць актыўнасць партыйных арганізацый, памяншаюць іх уплыў на гаспадарчую дзейнасць прадпрыемства. Партыйная арганізацыя на прадпрыемстве павінна імкнуцца перш за ўсё да таго, каб да ўсіх дайшла праўда, што павышэнне заробкаў можа наступіць толькі дзякуючы паляпшэнню гаспадарчых вынікаў прадпрыемства.

### ПОЛЬШЧА — СССР

У Варшаве закончыла работу X сесія польска-савецкай Міжурадавай камісіі гаспадарчага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Камісія разгледзела інфармацыі, складзеныя органамі планавання абедзвюх краін у справе датыхчасовай каардынацыі планаў развіцця на гады 1971—1975, а таксама прапановы ў справе развіцця спецыялізацыі і супрацоўніцтва ў некаторых галінах прамысловасці.

### ТУРЫСТЫКА — ІДЭАЛОГІЯ

У Варшаўскім камітэце партыі адбылася нарада сталічнага партыйнага актыву, прысвечаная ідэйна-палітычнай ролі турыстыкі. У нарадзе падкрэслена высокае ідэйнае значэнне добра арганізаванай і прадуманай турыстыкі па сталіцы краіны — Варшаве.

### ЧАЦВЯРАЧКІ

У Кракаве нарадзіліся чацвярачкі. Маці з'яўляецца 29-гадовай жанчынай з Навоевай Гары ў павеце Хэлмэк, бацька — працуе манцёрам у Новай Гуце. Першы нарадзіўся хлопец вагай у 2 кг 100 г. Пасля нарадзілася дачка, сын і зноў дачка. У суме чацвярачкі пасля нараджэння важылі каля 7 кілаграмаў. (уп)



## ВАЯВОДСТВА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ МЕЛІЯРАТАРАЎ

Тры дні ў Беластоку працягвалася навуковая канферэнцыя меліяратараў, якая была прысвечана справам меліярацыі і выкарыстання ў гаспадарцы балот, далін, якія штогод залівае вада, як, напрыклад, верхняя Нарва. Удзельнікі канферэнцыі праслухалі шэраг дакладаў і наведалі некаторыя меліярацыйныя аб'екты. Арганізатарамі канферэнцыі былі Польская Акадэмія навук, Камітэт па меліярацыі і Тэхнічна-эканамічная навуковая рада пры Прэзідыуме ВРН.

### 5 МЕСЯЦАЎ Ў ГАСПАДАРЦЫ

Як паінфармавала Ваяводскае статыстычнае праўленне (ВУС), за мінулыя 5 месяцаў гэтага года глабальная прадукцыя беластоцкай прамысловасці, планаванай цэнтральна, узрасла на 9,8% у параўнанні з мінулым годам, а ў прамысловасці, планаванай на месцы — на 5,4%. На жаль, горшыя вынікі дасягнуты ў галіне таварнай прадукцыі.

У сельскай гаспадарцы пасевы жыта, азімага ячменю, ільну, цукровых буракоў, бульбы і кукурузы былі горшыя, чым у маі мінулага года. На ўзроўні мінулага года засталіся пасевы яравога ячменю і аўса. Лепшымі, чым у мінулым годзе, выглядаюць пасевы азімай пшаніцы, рапаку, канюшыны, а таксама ўсе лугі і пашы. Наглядаецца спазненне ў вегетацыі раслін.

### ПЕРАХОДНЫ СЦЯГ — БЕЛАСТАЧЧАНАМ

Рабочыя беластоцкай мясной прамысловасці занялі першае месца ў краіне ў спаборніцтве па сваёй галіне прамысловасці. У нядзелю, на ўрачыстым сходзе ў прысутнасці прадстаўнікоў ваяводскіх улад ім быў уручаны Пераходны сцяг Прэзаса Рады Міністраў і Старшыні ЦК прафсаюзаў.

### ТРЫ ПАКОСЫ СЕНА

Цікавыя вынікі далі доследныя палеткі ў нашым ваяводстве, якія вядуць сяляне пад кіраўніцтвам Інстытута вырошчвання, угнаення і глебазнаўства (ІУНГ). Напрыклад, эксперымент угнаення лугоў, які вёўся на палетках Ю. Падляскага з Пратасаў, Г. Мішталеўскага з Кухароўкі і А. Ключыка з Трыпуцяў. Усе яны, выкарыстаўшы поўныя нормы мінеральнага ўгнаення, атрымалі тры пакосы сена. Яны пераканаліся, што пры ўгнаенні 360 кг азоту, 180 кг калію і 90 фосфару на гектар, ураджай зялёнай масы склаў 266 цэнтнераў, а побач, на няўгноеных лугах — 105 цэнтнераў.

Інстытут глебазнаўства пачаў таксама праводзіць у нашым ваяводстве доследы па мінеральнаму ўгнаенню з прымяненнем мікраэлементаў. Вучоныя спадзяюцца, што дадаванне мікраэлементаў да мінеральнага ўгнаення будзе спрыяць змяншэнню хвароб хатняй жывёлы.

### СВЯТА ДРУКАРОЎ

20 чэрвеня беластоцкія друкары адзначылі сваё свята — Дзень друкара і адначасова 100-годдзе прафсаюза паліграфістаў — найстарэйшага прафесіянальнага саюза ў Польшчы. (яч)




**Niedziela, 28 czerwca**

8.10 Program dnia. 8.15 TV Kurs Rolniczy: „Lato 70". 8.50 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla dzieci: „Miss Lalka" — program TV Słowackiej. 9.30 „Chata wuja Toma" — film fab. 12.15 Dziennik. 12.30 „Zaczarowany kożuszek" — film węg. cz. I. 12.50 „Przemiany". 13.20 „Pieśń świętojańska o Sobótce". 14.10 „W Kruszynianach" („Piórkiem i węglem"). 14.35 „Bonanza" — film. 15.25 PKF. 15.40 Turniej Miast: „Zawsze w niedzielę" — Gorlice — Sanok. 18.00 Sprawozdanie z trójmeczu lekkoatletycznego Polska — Węgry — Czechosłowacja. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 VIII Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu — „Mikrofon i Ekran". W przerwie ok. 21.10 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 29 czerwca**

16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Teleferie: „Gawędy wujka Ramusa" i „Tomek i pies" — filmy. 17.30 „Echo stadionu". 17.45 „Tramp" — Pojezierze Iławskie. 18.10 „Spacerkiem po kinach". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 VII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: Z. Krasiński — „Irydion". (Teatr im. St. Jaracza w Łodzi). 22.00 „Polski Film Dokumentalny". 22.40 Dziennik.

**Wtorek, 30 czerwca**

10.00 „Głosuję na miłość" — film fab. jugosł. 11.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 „Granica pokoju". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Program rozrywkowy. 20.35 Kino Interesujących Filmów: „Głową o mur" — film fab. franc. 22.05 „Panorama Literacka". 22.35 Dziennik.

**Środa, 1 lipca**

10.00 „Wspólniczka" — film TV ang. 10.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.35 Magazyn Medyczny. 19.05 PKF. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Impresje, ekspresje i jazz" („Słuchamy i patrzymy"). 21.20 „Światowid". 21.50 „Wspólniczka — film TV ang. 22.40 Dziennik.

**Czwartek, 2 lipca**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich. 9.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Za wszystkim kryje się kobieta" — film. 17.30 „Zamki na piasku" — film radz. 17.45 „Reklama w piosence". 18.00 „Introdukcja i Tryptyk" — program muzyczno-baletowy. 18.30 „Nurt" — rep. film. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zapalniczka" — film TVP. 21.00 „Producent, rynek, kalkulacja". 21.30 „Z piosenką przez Sycylię" — film rozr. wł. cz. II. 22.00 „Lektury współczesne". 22.15 Dziennik.

**Piątek, 3 lipca**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich. 10.00 „Zapalniczka" — film TVP. 10.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „UNESCO" — progr. pop.-naukowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Ostatni pojedynek" — film TVP („Podziemny front"). 20.30 „Kraj". 21.10 VII TV Festiwal Filmów Dramatycznych: L. Kruczkowski — „Śmierć Gubernatora". (Teatr w Zielonej Górze). 22.40 Dziennik.

**Sobota, 4 lipca**

10.00 „Tudor" — film fab. rum. 12.05 Przerwa. 16.05 Program dnia. 16.10 „Oferty". 16.20 Program tygodnia. 16.45 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w pływaniu Polska — Włochy. 18.00 Magazyn ITP. 18.15 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Pół czarnej na Stefanie Batorym". 21.20 Dziennik. 21.40 „Tudor" film fab. rum.




**Piątek, 26 czerwca**

8.00 Nowiny. 8.10 Film TV. 9.30 Dla uczniów. 10.00 Spektakl teatru lalek. 10.30 Nowiny. 15.00 Program dnia. 15.05 Nowiny. 15.40 Panorama nowin. 16.05 Rozmowa z I sekretarzem KC KP Urugwaju. 16.35 Filmy animowane. 17.30 Dla wsi. 18.00 Konsultacja techniczna. 18.15 Nowiny. 18.30 Spektakl TV. 21.00 Koncert. 21.30 Nowiny.

**Sobota, 27 czerwca**

8.00 Program muzyczny. 8.30 Zdrowie. 9.00 Pieśni męstwa. 9.15 Przegląd międzynarodowy. 9.30 Szkatułka muzyczna. 9.45 Białe i czarne. 10.15 Koncert. 11.00 Dla uczniów. 11.45 W świecie zwierząt. 12.45 Film fab. 14.10 Kronika półwiecza. Rok 1940. 15.00 Puchar ZSRR w piłce nożnej. Ćwierćfinał. „Dynamo" (Moskwa) — „Torpedo" (Moskwa). 17.30 W eterze — Młodość. 18.00 Spektakl. 20.30 Mistrzowie podwodnych szlaków. 20.40 Program muzyczny. 21.25 Nowiny.

**Niedziela, 28 czerwca**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Rzieźbiarz M. Anikuszyn. 9.00 Turniej dociekliwych. 10.00 Dla dzieci. 11.00 Koncert. 11.10 Film fab. 12.45 Dla wsi. 13.10 Film TV. 13.40 Film fab. 15.00 W eterze — Młodość. 16.00 Nowiny. 16.05 Klub podróżników filmowych. 17.00 Filmy animowane dla dzieci. 17.30 Koncert. 19.00 Europa: wydarzenia, kraje, problemy. 19.30 Nasz przyjaciel — Polska. 12.00 Nowiny.

*З нагоды 20-годдзя Дзяржаўнага педагагічнага ліцэя ў Бельску 27 і 28 чэрвеня г.г. адбудзецца з'езд выпускнікоў. Прапануем увазе нашых чытачоў матэрыял, прысвечаны гэтай заслужанай навучальнай установе.*

# Да гнязда свайго...

## ЛІЦЭЙ АДНОЙ СЯМ'І

Відаць так захацеў лёс, што Педагагічны ліцэй у Бельску заканчвае сваю працу роўна пасля 20-ці год існавання. Яго арганізатарам і дырэктарам ад пачатку быў і па сёння застаўся *Мікалай Канашынскі.*

Уключна з 1969 годам педліцэй закончыла 814 абсальвентаў, а ў рэянавай камісіі здабыло прафесіянальныя кваліфікацыі 282 настаўнікаў. Паводле няпоўных дадзеных, з гэтага ліку больш 75 працэнтаў абсальвентаў атрымала дыпломы СН і іншых вышэйшых навучальных устаноў.

20 год працы ліцэя — гэта велізарная выхаваўчая і дыдактычная праца настаўніцкіх кадраў педліцэя, гэта грамадны ўклад у культурнае і грамадскае жыццё горада, павета, рэгіёна. Вышэй сказанае можна характарызаваць прыкладамі. Існуючы ад 1953 па 1966 гады тэатральны калектыў даў аж 19 пастановак розных аўтараў, у тым ліку і беларускіх, у розных асяроддзях. *Аграбіялагічны гурток* толькі за продаж выгадаваных кустоў і ягад чорных парэчак у гадах 1962—1966 атрымаў *105 тыс. зл.*

Да найбольш вартасных форм ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння трэба залічыць узбуджанне і паглыбленне сярод навучэнцаў патрыятычных пачуццяў і адначасова пачуццяў пралетарскага інтэрнацыяналізму. Справа сужыцця моладзі дзвюх нацыянальнасцей — польскай і беларускай — беражліва тут ахоўвалася.

Дырэктар М. Канашынскі падае мне апісанне аднаго з прыкладаў фарміравання братніх, інтэрнацыяналістычных пачуццяў польскай і беларускай моладзі ў працы педліцэя:

— Год 1952 — 70-ая гадавіна нараджэння слаўнага беларускага паэта Якуба Коласа. Педліцэй арганізуе ў кіно-зале ўрачысты сход для грамадзян Бельска. Мая прывітальная прамова. Даклад. 100-асабовы хор ліцэя спявае польскія і беларускія песні. Танцавальны калектыў у нацыянальных уборах выконвае беларускія танцы. Гледачы сардэчна прымаюць кожны нумар праграмы. Удзельнікамі, як хору так і танцавальнага калектыву, была моладзь беларуская і польская. Супольная навука, праца, экскурсіі, вандроўныя лагеры, супольныя цяжкасці, перажытыя перамогі і паражэнні (спартыўныя, у конкурсах) ўмацавалі братэрскія сувязі дружбы моладзі абедзвюх нацыянальнасцей. Гэта дасягненне, якое лічу за адно з найбольш вартасных у выхаваўчым працэсе чалавека сацыялістычнага ладу.

Для больш поўнай арыентацыі ў дасягненнях школы ў спамянутым выхаваўчым працэсе прывядзем словы Э. Яцкевічовай, якая ў «Głosie Nauczyc'elskim» ад 9.X.1955 г. у артыкуле «Тут цвіце братэрства» так пісала «...Вакол чуваць то польскую, то беларускую мовы. Цяжка адрозніць, хто тут паляк, а хто беларус. Проста адна сям'я... Усіх характарызуе тут творчая праца чыну, пачынаючы ад дырэктара, педагагічнага калектыву па ўсю па братэрска супрацоўнічаючую моладзь ліцэя».

— Выхаванне працай, — гаворыць дырэктар Канашынскі, — а ў асноўным грамадскай працай — гэта асноўная форма ідэйна-выхаваўчага ўплыву нашай школы на моладзь ад яе стварэння аж па сённяшні дзень. У грамаднай ступені абапіраецца яна на палітычныя маладзёжныя арганізацыі ў школе: ЗМП, ЗГП і ЗМВ.

Іменна таму ў жыцці ліцэя ёсць так многа поспехаў і дасягненняў маральнага, прэсціжовага, амбіцыянальнага характару, поспехі спартыўных каманд, дружын у элімінацыях Ведаў аб Польшчы і сучасным свеце, поспехі харавых калектываў, а таксама індывідуальныя поспехі вучняў школы.

**А. Карпюк**



*100-асабовы харавы калектыў педліцэя, якім кіруе А. Лукашук (таксама абсальвент бельскага педліцэя).*

## УСПАМІН СА ШКОЛЬНЫХ ГОД

*Андрэй Садоўскі родам з Вялікіх Тыневіч, бельскі педліцэй закончыў у 1963 годзе. Пасля паступіў на аддзяленне сацыялогіі Варшаўскага універсітэта, якое закончыў у 1968 годзе.*

*Пасля заканчэння вучобы вяртаецца на Беласточчыну і прымае працу сацыёлага на бавоўнакамбінаце «Фасты» ў Беластоку. Адначасова з'яўляецца выкладчыкам кафедры грамадска-палітычных навук Медыцынскай акадэміі.*

Цяжка было б пералічыць усё тое, што чалавек вынес з ліцэя. Аднак, апрача ведаў, трэба на першым месцы паставіць *пашану для працы.* У школе мы не толькі вучыліся, але і працавалі фізічна. Між іншым, упарадкоўвалі школьны пляц, садзілі кветкі, дрэўцы, а таксама сістэматычна займаліся вырошчваннем чорных парэчак. Праўда, калі ўвойдзем у рытм тых дзён, дык успамінаецца, што не заўсёды з энтузіязмам выконвалі мы працу «з лапатай». Але гледзячы вачыма чалавека, які зараз самастойна працуе і думае, дык загартаванасць, вынесеную з педліцэя, цяжка пераацаніць.

Іншай вельмі важнай, на маю думку, справай было тое, што школа давала магчымасць кожнаму развіваць свае зацікаўленні. Мяне асабіста зацікавіў музычны калектыў, і я хацеў бы ў гэтым месцы выказаць за гэта шчырую падзяку дырэктару Канашынскаму і настаўніку Янкоўскаму. З удзячнасцю ўспамінаю нядаўна памершага настаўніка Мяшальскага, які ўсю сваю энергію прысвяціў моладзі. Ён патрапіў прыходзіць кожны дзень пасля абеда ў школу, каб бескарысна ўдасканальваць нашыя музычныя веды і ўмеласць. І гэта давала свае вынікі. Пад яго кірункам хор і аркестр педліцэя лічыўся перадавым не толькі ў Бельску, але і ў ваяводстве.

Большасць з нас, вучняў, паходзіла з вёсак, і часта апрача Бельска мы не бачылі іншай гарадской мясцовасці. І тут школа дапамагла нам убачыць свет. Дзякуючы сістэматычным ашчаднасцям у СКО, мора, горы, Варшава і іншыя мясцовасці ў Польшчы, а нават Масква і Чэхаславакія, — ўсё гэта было ўбачана намі. Турызм, які быў вельмі развіты ў нашай школе, не толькі набліжаў нас да людзей, знаёміў з прыгажосцю і багаццем прыроды, з дакументамі гісторыі, але таксама фарміраваў у нас кемлівасць, пачуццё арыентацыі, а таксама ўмеласць самастойнага мышлення.

З захапленнем і пашанай успамінаю кожнага з педагогаў. Прызнаюся, што часам ахапляў мяне жах у сувязі з высокімі патрабаваннямі праф. Зарэмбы па польскай мове ці праф. Жмудзінскага па матэматыцы, але дасканала разумею цяпер, што дзякуючы такім патрабаванням я без вялікіх цяжкасцей мог паступіць ва ўніверсітэт.

Хаця лёс па-рознаму пакіраваў абсальвентамі нашага ліцэя, але спалучаюць нас супольныя гады навукі і працы, моцныя сяброўскія сувязі з тых год. Наш III з'езд, напэўна, павялічыць іх.

**Андрэй Садоўскі**

*Пісьмовы экзамен сталасці па беларускай мове. Пры дошцы настаўніца беларускай мовы Л. Гайдук; сядзяць: старшыня дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі дырэктар М. Канашынскі і член камісіі М. Пахвіцэвіч.*



## ПАЛЮБІЛА МУЗЫКУ...

У бягучым навучальным годзе я заканчваю Педагагічны ліцэй у Бельску. Гэта схіляе мяне да рэфлексіі і ўспамінаў.

Успамінаю першыя сутыкненні са школай, калі я была ў першым класе. Я не ўяўляла сабе навукі ў іншай школе, мне здавалася, што школа, якую я выбрала, з'яўляецца найлепшай. Мае ўяўленні не былі памылковымі. Хутка я пераканалася, што ёсць так сапраўды.

Ужо ў пачатку школьнага года нашыя старэйшыя калегі далі прыгожую пастаноўку казкі Андэрсена «Дзяўчынка з запалкамі». Ніколі не была я ў сапраўдным тэатры, і таму захаплялася гэтым цудоўным відовішчам.

Культурную дзейнасць развіваў не толькі драматычны гурток. У кожную першую сераду месяца да нас прыязджалі артысты філармоніі ў Варшаве. Зусім шчыра прызнаюся, што я не магла дачакацца чарговага канцэрта. Палюбіла і навучылася слухаць класічную музыку, якой дагэтуль я не цярпела. Калі цяпер па радыё пачую прозвішча Здзіслава Сквары або іншага артыста, не адыйду ад радыё, пакуль не выслухаю іх песні.

У першых днях пабыўкі ў школе мы, першакласнікі, з зайздрасцю слухалі расказы нашых старэйшых сяброваk аб прыгожай польскай зямлі. Не ведалі, што хутка і мы зможам пазнаёміцца з яе куткамі. У першым класе мы ўбачылі мора, наведалі Гдыню, Гданьск, Сопат, Мальборк. Будучы ў другім класе, наведалі паўднёвую Польшчу: Кракаў, Закапанэ і Марское Вока. У трэцім класе я была там яшчэ раз, але на гэты раз з вандроўным лагерам. Апошняя экскурсія адбылася год таму назад у Бяшчады. Аб тым, што мы да «чагосьці» спасобныя, сведчаць хаця б вынікі Алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Не раз нашыя калегі займалі відныя месцы нават у агульнакраёвым маштабе.

Добрыя вынікі атрымлівалі нашыя спартсмены. З прыемнасцю мы чыталі ў друку аб рэкордзе М. Вілюк у мятанні кап'ём і г.д.

Цяпер, калі мы ўжо выпускнікі ліцэя, можам падсумаваць, колькі карысці атрымалі на працягу пяці год навукі. Школа сфарміравала ў нас патрыятычныя, гуманітарныя і грамадскія пачуцці, навучыла шанаваць грамадскую маёмасць і людзей працы.

У нашым далейшым жыцці, напэўна, не раз будзем звяртацца да ўменняў, ведаў і вопыту, якія мы атрымалі ў ліцэі.

**Ірына Праховіч**

*З ліста да дырэктара*

## РЭТРАСПЕКЦЫЯ ВЫПУСКНІКА

Думаю, што будзе гэта вельмі карысная сустрэча. Мяркую, што непасрэдны кантакт з былымі выхаваўцамі, узаемная сустрэча былой вучнёўскай братвы дазволяць, з аднаго боку, адсвежыць канструктыўныя і разнастайныя выхаваўчыя сітуацыі, якія мы супольна перажывалі, а, з другога боку, — усведаміць важнасць ролі нашага педліцэя ва ўкірункаванні нашага жыццёвага шляху, асабліва нас, моладзі, якая выводзіцца з вясковага асяроддзя.

Уласная рэтраспекцыя, абаснованая на грунце паглыбленай педагагічнай тэорыі (на працягу гэтых 10 год вучобы і працы ў Варшаўскім універсітэце) настойліва схіляе мяне да сфармуліравання наступнага тэзісу: наш педліцэй быў не толькі дыдактычным цэнтрам, але перш за ўсё школаю выхавання, якая рыхтавала да канкрэтнага жыцця ў шырокім грамадстве. Экспанаванне гэтай другой функцыі было вельмі абгрунтавана, асабліва з пункту гледжання жыццёвых шанцаў нас, вясковай моладзі.

Працуючы над праграмаваннем мадэлі сучаснай школы, неаднойчы вяртаюся думкай да нашага ліцэя, і здаецца мне, што іменна гэты ліцэй рэалізаваў вельмі многа вартасных прынцыпаў у галіне выхаваўчай функцыі, якія павінны быць распаўсюджаны і знайсці месца ў мадэлі кожнага тыпу сучаснай школы. Я вымушаны прызнацца ў гэтым месцы, што некалькі разоў на сходах навуковага калектыву педагагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта наш ліцэй быў экземпліфікацыяй для маіх тэарэтычных разважанняў. Практычнае вырашэнне ў галіне выхаваўчай працы ў нашым ліцэі было адобрана навуковым калектывам. Гэта неаднойчы дапамагала мне фарсіраваць свае тэарэтычныя тэзісы адносна профілю сучаснай школы.

**Мікалай Вінярскі**
Ад'юнкт Педагагічнага факультэта ў Варшаўскім універсітэце.

(Працяг са стар. 1)

## Бельская кузня настаўніцкіх кадраў

меў таксама вялікі дадатны ўплыў на якасныя змены ў асабовым складзе настаўніцкай кадры. Калі ў 1945/46 годзе ўдзел кваліфікаваных настаўнікаў не перавышаў 25% агульнай колькасці настаўнікаў, якія працавалі ў школах з навучаннем беларускай мовы, то ў 1960/61 годзе ўдзел гэты складаў 87%, а ў 1965/66 г. дасягнуў 98%.

Рашэнне кадравага пытання садзейнічала развіццю і павышэнню ўзроўню навучання беларускай мовы ў школах Беласточчыны. У апошнія гады колькасць вучняў, ахопленых навучаннем роднай мовы, дасягнула найвышэйшы ў пасляваенны перыяд узровень 11—12 тысяч моладзі пачатковых і сярэдніх школ, перавышаючы, такім чынам, амаль у два разы ўзровень 1944/45 года. Вялікая ў гэтым заслуга належыць дырэкцыі і выкладчыкам Педагагічнага ліцэя ў Бельску.

**Юры Туронак**



*Хлопцы з аграбіялагічнага гуртка пры дагляданні фруктовых дрэваў.*

*Фота — школьны архіў*

Пачатак на стар. 1



# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 1970



*Спявае Ананій Ясюк з Пілік, Бельскага павета (II месца).*

нія ўдзельнікі выводзіліся з іхніх хораў, у Бельску і Гайнаўцы. Не было сапраўдных любіцеляў беларускай песні з вёсак. Значыць, не правялі аддзелы належнай арганізатарскай і прапагандысцкай працы ў шырокай паласе на карысць беларускай песні і конкурсу. Трэба гэта запомніць, каб навука не пайшла ў лес.

Найсімпатычней выпаў Сямяціцкі павет. З яго быў дуэт, трыё і квартэт з вёсак Рагачы, Мікулічы, Мілейчыцы. Незабыўнае ўражанне зрабіў і пакінуў надоўга дзявочы квартэт «Бядронкі» з Мілейчыц. Але сказаць трэба, што ўсе групы з Сямяціцкага павета — гэта вакальныя групы школьных дзяўчат. І што і ў Рагачах, і Мікулічах, і Мілейчыцах дзейнічалі адны і тыя самыя людзі: настаўніца з Мілейчыц Тэкля Вашчук і акампаніятар Юзэф Янушка. Яны падрыхтавалі ўсе песні. Не будзь іх, не нарадзіўся б ніводзін з трох добрых школьных вакальных гурткоў з Сямяціцкага павета.

Конкурс «Беларуская песня 1970» выявіў спробы многіх спосабаў выкания беларускай песні. Класічны, пры акампаніяменце піяніна («Бядронкі»), традыцыйны, нібы то народны, адным голасам, з зацягваннем, пры гармоніку (салістка з Бельска), біг-бітовы пры гармоніку (дуэт з Беластока), дуэты без усялякага музычнага суправаджэння і сола, якое прадставіла Зофія Трахімчык з вёскі Дзернякова, спяваючы народныя песні цэлым сэрцам і поўным сваім моцным голасам.

Вывад з гэтага можна зрабіць такі, што беларуская песня пачынае не знаць граніц, уваходзіць у жыццё ўсімі спосабамі, і ўсе яны добрыя, усе можна прыняць. Па-рознаму можна спяваць песню, абы спяваць добра, з падрыхтоўкай, з любоўю.

З першага конкурсу беларускай песні робім яшчэ адзін вывад аб (далікатна кажучы) слабым развіцці музычнага жыцця ў нашым асяроддзі.

У павятовых гарадах, вядома нам, працуюць так званыя «музычныя агніска». Аднак яны не спаўняюць творчай ролі ў развіцці музычнай культуры сваіх раёнаў.

Інспіратарскі музычны цэнтр тут патрэбен. Без гэтага не рушыць з застою



*Зофія Трафімчык з Дзернякова, Беластоцкі павет, спецыяльная ўзнагарода журы.*

музычная культура. Цяпер патрэбны добрыя спецыялісты, а не толькі добрая ахвота. Добры патранат над беларускай песняй бачу ў пэўнай меры ў Беларускім таварыстве, каб толькі хоць крыху наладзіць яшчэ справу з кадрамі. Каб (калісь аб гэтым я ўжо пісала) сярод беларусаў знайшоўся нейкі прафесар Саберайскі (гэта вядомы збіральнік курпёўскага фальклору, ініцыятар народных калектываў, працуючых на курпёўскім фальклоры, між іншым, «Курпяў Зялёных»), які б пайшоў у людзі і сабраў песенна-музычнае багацце, даў яму апрацоўку, навучыў яго спяваць.

Конкурс на беларускую песню стаўся ўжо штогадовым. Цяпер ужо трэба думаць аб сустрэчы праз год, на другім конкурсе «Беларуская песня 1971».

**Вера Леўчук**

**Фота Цаф — Сянько**



*Аля Фірсюк і Надзя Раманюк — дуэт з Гайнаўкі, II-ая ўзнагарода ў катэгорыі малых вакальных калектываў.*



*Фрагмент залы ў час канцэрту «Беларуская песня 1970».*

Пачатак на стар. 1

# ЧАМУ НЯМА НАШАЙ ПЕСНІ?

— Чаму ў нашай краіне мала хто ведае аб беларусах, аб іх жыцці і культуры? Чаму няма аб нас і нашай культуры адпаведнай інфармацыі ў радыё ды тэлевізіі?

— Чаму ў тэлевізійных праграмах паказваюць заўсёды толькі Шлёнск? Чаму не пакажуць хаця раз нашай гайнаўскай прамысловасці?

— Чаму ў радыёперадачах і тэлевізійных праграмах няма ніколі нашай песні, толькі заўсёды нейкія замежныя?

Тлумачу, як магу, аб'ектыўныя, эканамічныя і сацыялагічныя прычыны таго, што Беласточчына, у тым ліку і ўсходнія яе акраіны экспануюцца сродкамі масавай інфармацыі менш, чымсьці скажам, Шлёнск. Але ж не. Людзі прыйшлі сюды не па тое, каб дыскутаваць аб аб'ектыўных прычынах, але па тое, каб даведацца, як захаваць сваю этнічную годнасць. Пытаюць:

— Чаму ў радыё няма нашай песні?

У адказ пытаю іх:

— Адкуль узяць яе, гэтую нашую песню?

У вёсках працуюць дзесяткі аматарскіх гурткоў. Ніводзін не выконвае мясцовай народнай песні. Спяваюць розныя «пшэбоі», якія выконваюць таксама прафесіянальныя спевакі з Варшавы, Масквы, Мінска ў сто разоў цікавей і прыгажэй. Няма ў іх зусім мясцовай нашай арыгінальнасці.

Людзі згаджаюцца і ад сябе дадаюць:

— Калісь, як выйдзем, бывала, ды заспяваем — чутно было на трэцяй вёсцы. Сёння наша моладзь спяваць не ўмее і не хоча.

Згода, але што рабіць, каб ратаваць рэшткі народнай арыгінальнасці перад залівам масава прадукаванай халтуры? Гэта не ёсць пытанне эстэтаў і снобаў на народнасць. Для сабраўшыхся ў койлаўскім клубе людзей ратаванне рэштак іх самабытнай культуры — гэта не справа культуры, але справа іх месца ў грамадстве, пачуцця годнасці і вартасці і прызначэння з боку грамадства ўсяе краіны. І таму зышліся яны сюды з адлеглых койлаўскіх хутароў, нягледзячы на растопы, пранырлівы дождж і цікавую тэлевізійную праграму. Нават агульнавясковае няшчасце, выкліканае дрэнннай пагодай, не перашкодзіла ім заняцца праблемамі так далёкімі ад сялянскай практычнасці і канкрэтнасці.

Вернемся аднак да справы генеральнай: што рабілі мы для ратавання і прапагандавання мясцовага беларускага фальклору. Адкажу з рукою на сэрцы: вельмі мала, а ў справе, узнятай койлаўскімі сялянамі — у справе прапагавання мясцовай народнай песні, не зроблена фактычна нічога. Адсутнасць усялякай арыгінальнасці, самабытнасці, капіраванне чужых узораў выклікае адсутнасць зацікаўлення прапагандаванай намі аматарскай самадзейнасцю з боку радыё, тэлевізіі і друку. Нічога ў гэтым напрамку не зрабіла нават папулярная «Лявоніха», з якой можна было вязаць вялікія надзеі. Адсюль родзяцца сумныя пытанні старэйшага пакалення вёскі.

**У. ПАЎЛЮЧУК**

## У пошуках шчасця




Ці былі вы калі-небудзь над морам? Ці слухалі шум марской хвалі ўночы, калі над зямлёю пануе цішыня? А мо былі вы калі ў высокіх гарах у летнюю, месячную ноч?

Калі не былі, дык ёсць іншая рада. Шыр мораў і веліч гор можа вам заступіць густы, стары лес — але толькі ўночы, толькі ў адзіноцтве і толькі тады, калі на душы ў вас лёгка і прасторна, ды няма клопатаў звычайнай штодзённасці.

На моры, у гарах, у дзікай пушчы адчуваем непасрэднае сутыкненне з чыстай, спрадвечнай, грознай, грамаднай стыхіяй. Адчуваем касмічную амаль трывогу, а адначасова глыбокі спакой, падобны да таго, які набожныя людзі адчуваюць ў святынях.

Стыхіяй стыхіі з'яўляецца аднак мора, з яго бязмежнай шырынёю, грознымі штормамі, неспакойным бурленнем шумных хваляў. Марская прырода, рамантыка мора і яго стыхія заўсёды вабілі да сябе чалавека.

Тут на морах і акіянах, здалёк ад сушы і людскіх супольнасцей разыгрываліся кульмінацыйныя сцэны выдуманых пісьменнікамі раманаў і сапраўдныя вялікія чалавечыя трагедыі. Сюды, у далеч мораў ішлі людзі найбольш адважныя і смелыя, часта бунтарскія, часта з бязмернай прагай пазнання свету, адкрывання свету. З морам звязана немалая галіна вялікай чалавечай культуры, увасабляўшай у сабе вяршыні, да якіх дайсці мог чалавек.

Зараз мора ў свядомасці звычайнага жыхара краіны, а асабліва жыхара-мешчаніна — гэта перш за ўсё пляж. Вядома паўсюдна, што ў Польшчы ёсць мора, што над морам ёсць пясок і часам прыемнае сонца, што плаваюць там караблі. Больш бывалыя ведаюць названні курортаў, гасцініц і рэстаранаў. І гэта ўласна кажучы ўсё. Веды гэтыя маюць практычнае значэнне і застасаванне. Гэта проста шматтысячны голы натоўп на марскіх пляжах — смешны і дзіўны, ацякаючы потам і смярдзючымі масламі, цяжка сапучы пад ціскам цёплых летніх промняў. Уваход на пляж платны. Плаціць 4 злотых за тое, каб падысці да марской вады, памачыць сабе ногі, ды пагрэць плечы ў марскім пяску. Сочаць за гэтым дакладна працаўнікі турыстычных прадпрыемстваў, заданне якіх — не дапусціць да ніякай стыхійнасці ў карыстанні марскім паветрам.

Нягледзячы на гэта, мора застаецца надалей стыхіяй. Нягледзячы нават на дваццатае стагоддзе, на развіццё тэхнікі, радыёлакацыі і г.д. Марак адплывае ў доўгі 8-месячны рэйс. Пакідае родны горад, сям'ю, краіну. Пакідае людзей найбліжэйшых. Яго стыхіяй на гэты час будзе бязмежная шыр вады і марскія хвалі. Што перажывае ён падчас гэтага падарожжа? Ведаем мы аб гэтым нямнога. А перажывае ён, напэўна, многа. Бо многія матросы вяртаюцца з доўгіх рэйсаў нервова і псіхічна хворыя. Многія пасля першага рэйсу больш не выязджаюць. Іншыя падчас пабыўкі на сушы вядуць інтэнсіўны, празмерна інтэнсіўны трыб жыцця, прагна карыстаючыся ўсімі даступнымі для іх раскошамі. Яшчэ іншыя аддаюцца на караблях розным захапленням і шаленствам, займаючыся, скажам, мастацтвам. Узнікае, такім чынам, абсалютна бескарыснае, незалежнае ад усялякіх сучасных плыняў і манераў мастацтва.

У краіне не зрабілі належных вывадаў з таго факту, што сталі мы марской краінай. Мора можа ўзбагаціць чалавека, пашырыць круг яго адчуванняў і ўражлівасць, так як робяць гэта шэдэўры мастацтва — незалежна ад таго, што чалавек робіць і дзе ён пражывае. Патрэбная да гэтага аднак добрая ахвота ды дапамога якраз мастакоў і людзей мастацтва. Дагэтуль не створана ў нас нічога, што хаця б крыху напамінала несмяротныя творы Канрада, які, ствараючы своеасаблівую філасофію мора, дапамагаў і дапамагае многім людзям у вырашэнні іх глыбокіх жыццёвых праблем, у іх імкненні да ўнутранага спакою і шчасця. Марыністычная кніжная прадукцыя абмяжоўваецца ў нас найчасцей да плыткай сенсацыйнасці, кінафільм — да простай рэкламы тэхнічнага прагрэсу ў партах, дзейнасці розных марскіх устаноў, часам — рэкламы больш выдатных людзей мора.

Словам, мора чакае надалей адкрыцця яго чалавечага аблічча, яго своеасаблівай антрапалогіі і філасофіі, на адкрыццё істотнае і патрэбнае не толькі для маракоў і жыхароў узбярэжжа.

**Рыгор Паўлюк**

 




### РЭЧПАСПАЛІТА 30 ВЕРАВЫЗНАННЯЎ

Пад такім загалоўкам «Życie Warszawy» з 18 мая г.г. змясціла артыкул польскага рэлігіязнаўца Анджэя Такарчыка. Ніжэй падаем у скарачэнні змест гэтага артыкула.

Маем зараз у Польшчы каля 30 веравызнанняў (без каталікаў), якія налічваюць у суме каля 850 тысяч асоб. Дзеляцца яны на веравызнанні хрысціянскія і нехрысціянскія. Да першых належаць веравызнанні праваслаўнага, пратэстанцкага і каталіцкага характару. Другую — менш колькасную групу — складаюць мусульмане, яўрэі і караімы.

Сярод праваслаўных веравызнанняў выдзяляецца перш за ўсё Польская аўтакефальная праваслаўная царква, з 440 тысячамі вызнаўцаў, якія пражываюць перш за ўсё ў Беластоцкім, Люблінскім і Жэшоўскім ваяводствах, а таксама на Заходніх землях. Праваслаўныя складаюць больш-менш палавіну членаў веравызнаўчых меншасцей у Польшчы. Праваслаўная царква распараджаецца звыш 200 духоўнымі, мае каля 300 святынь, дзеліцца на 3 епархіі, а тыя ў сваю чаргу на 20 дэканатаў і 206 прыходаў. У мясцовасці Яблачын Бела-Падляшскага павета стаіць пабудаваны яшчэ 500 гадоў таму назад праваслаўны мужчынскі манастыр. У 1847 годзе на Грабарцы каля Сямяціч узнік таксама жаночы манастыр гэтага веравызнання.

Ва ўсім свеце пражывае каля 150 мільёнаў праваслаўных, якія належаць да цэркваў так званага візантыйскага канона веры, а пачаткі польскага праваслаўя і славянскага абраду сягаюць пачаткаў нашай дзяржаўнасці. Да праваслаўных веравызнанняў належаць таксама польскія стараверы (філіпоны), згуртаваныя ў двух незалежных ад сябе асяродках: у ваколіцах Войнава ў павеце Мронгаў і ў вёсцы Грабовэ Гронды каля Аўгустова. Прывандравалі яны ў Польшчу пасля праследвання ў Расіі так званых раскольнікаў, гэта значыць, тых праваслаўных, якія не згадзіліся на рэформы патрыярха Нікана ў XVII стагоддзі.

Звыш 100 тысяч веравызнаўцаў налічвае евангеліцка-аўгсбурскі касцёл, які дзеліцца на 125 прыходаў. Галоўныя яго цэнтры знаходзяцца на Цешынскім Шлёнску, у Катавіцкім ваяводстве, а перш за ўсё на Мазурах. Польскія евангелісты маюць за сабою доўгую гісторыю барацьбы за захаванне польскасці перад залівам германшчыны. Евангелістам быў Самуэль Багуміл Ліндэ, аўтар векавечнага «Слоўніка польскай мовы», і вядомы пісьменнік Стэфан Жэромскі. Гітлераўцы знішчылі чацвертую частку евангеліцкага духавенства ў Польшчы з іх епіскапам І. Буршам і яго сям'ёю на чале.

Евангеліцка-рэфармаваны касцёл (кальвінізм) налічвае сёння ў Польшчы ўсяго каля 5 тысяч веравызнаўцаў. У XVI стагоддзі кальвінізм быў «веравызнаннем польскай шляхты», належалі да яго такія людзі, як Мікалай Рэй з Нагловіц і Ян Ласкі. Кальвіны апанавалі тады палавіну сенатарскіх крэсел. Наследнікамі шырокага арыянскага руху, які бурліва развіваўся ў Польшчы ў XVI і XVII стагоддзях, імкнуцца сёння быць члены так званай «яднота братоў польскіх». Веравызнанне гэтае згуртоўвае аднак невялікую колькасць асоб.

Да пратэстанцкіх веравызнанняў належаць таксама адвентысты сёмага дня, якія на тэрыторыі Польшчы налічваюць каля 6.500 асоб, касцёл хрысціян баптыстаў, касцёл метадыстаў і Аб'яднаны евангелічны касцёл.

Ёсць таксама ў Польшчы Польска-каталіцкі касцёл (каля 30 тысяч веравызнаўцаў), Старакаталіцкі касцёл мар'явітаў (22 тысячы асоб), каталіцкі касцёл мар'явітаў (4 тысячы асоб). Шэраг асобных веравызнанняў складаюць у нашай краіне таксама розныя галіны руху так званых даследчыкаў святога пісання.

Да нехрысціянскіх веравызнанняў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Польшчы, належаць Рэлігійны саюз маісеевага веравызнання (6 тысяч асоб), мусульмане (1700 асоб) і караімы (250 асоб). (п)

## Наш Каляндар

### Уладзімір Дубоўка



2 ліпеня спаўняецца 70 год з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі.

Ул. Дубоўка нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі, Пастаўскага раёна, у сям'і рабочага. У 1918 годзе скончыў настаўніцкую семінарыю. Некаторы час настаўнічаў у вясковай школе, а потым быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі. Пасля грамадзянскай вайны вучыўся ў Літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Брусава.

Друкуецца Ул. Дубоўка з 1922 года. Першы зборнік яго вершаў «Строма» быў выдадзены ў 1923 годзе ў Вільні.

Цяпер паэт жыве ў Маскве. Верш, які прапануем увазе чытачоў, напісаны ў 1958 годзе.

### Зноў вас пабачыў...

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша ўтульнасць ізноў мяне крые.

Ціха гамоніць і вецце, і лісце,
як гаманіла калісьці, калісьці...

Вашы вяршыні кранаў я рукою,
ў вашых шатрах я шукаў супакою.

Нас над зямлёй вы ўзнасілі высока,
нас, напрадвесні, паілі вы сокам,

каб шанавалі ад шчырага сэрца
тую зямлю, ад якой ён бярэцца.

Гэту пашану ніколі не траціў,
а узмацняў яе шчыраю працай.

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые...

**Уладзімір Дубоўка**

## СЛОЯ — ПАМАЖЫ САБЕ!

Слаянскія гаспадары маюць свае сенакосы аж пад Супраслю. Каб даехаць да іх, трэба выязджаць фурманкаю або нанач, або так ранюсенька, што яшчэ зоркі бліскаюць на небе. Многа гадзін валакітнай дарогі.

У апошні час Слоя пачулася адрэзанай ад сваіх сенакосаў. Раён эксплуатацыі дарог у Саколцы не палічыўся з праклёнамі гаспадароў і пачаў сабе, як бы нічога не бывала, капаць жвір з вялікага кавалка слаянскага шляху паміж вёскамі Азярок і Клін. Ямы, вываратні, ламанне вазоў. Нават пустым возам боязна праехаць, можна вываліцца лагары коламі.

«Ніва» пацікавілася гэтай справай. У Беластоку бескланотна выяснілі, што тая слаянская дарога належыць, бадай, да ўправы мясцовых дарог, з якой Раён эксплуатацыі дарог вельмі мала мае супольнага. Раён той займаецца толькі дзяржаўнымі дарогамі, рэшта дарог для яго не існуе... Аднак паабяцалі справу высветліць і ўладзіць, калі што кепскага начаўплі там, за Азярком.

Дарога ў ваколіцы Азярка палявая, малаважная, зусім няважная. Затое для Слоі яна моцна важная, ад яе залежыць тое, ці будзе як прывезці сена жывіне на зіму.

Так выглядае жыццёвая справа гэтай ціхай вёскі Слоі, што ляжыць паміж цудоўнымі далінамі ды пагоркамі Сакольшчыны.

Другая справа, аб якой мне ніхто не хацеў сказаць нічога канкрэтнага, але якая цалкам падобна да такіх спраў у іншых вёсках — гэта самадзейны гурток. Ведаю, што самадзейны гурток у кожнай амаль вёсцы выклікае хвалю зайздрасці з боку іншых хлопцаў і дзяўчат. Так яно ў нашых людзей Беласточчыны павялося. У Слоі стварыўся самадзейны гурток на месцы існаваўшага. Стварылі яго зусім новыя людзі. Апрацавалі яны п'есу, паставілі яе ў час павятовага агляду, які адбыўся ў будынку школы ў Астраўку, здабылі другое месца сярод дзевяці іншых гурткоў. Гэта вельмі высокае месца. Але гурток ні разу не паставіў сваёй п'есы ў самой Слоі. Выйшла так, што аб слаянскіх самадзейніках больш ведаюць у свеце шырокім, чымсьці ў Слоі.

Хлопцам і дзяўчатам проста перашкаджаюць і да таго моцна перашкаджаюць. А гэта ўжо нядобра. Перашкаджаць ім — гэта тое самае, што перашкаджаць развіццю культуры ў роднай мясцовасці. Некаторыя слаянцы нездарова любуюцца ў так званым падстаўлянні нагі моладзі. У мясцовым клубе «Руху» не дазваляюць ім праводзіць рэпетыцый, не гаворачы ўжо аб наладжванні тут прадстаўленняў. Адкуль такая зацятасць да моладзі, якая добра робіць, не прапускае свайго жыцця на гульнях і п'янках адных, стараецца рабіць карысную ўсім і патрабуючую ахвярнасці працу культурна-асветнага характару. Адкуль зацятасць? Здавалася б, Слоя, вёска наогул забітая, павінна ўсімі сіламі дапамагаць энергічнай групе! Здавалася б, толькі цешыцца таму трэба, што маладыя самі бяруцца за нешта разумнае, патрэбнае...

Некаторым яўна не падабаецца кіраўнічка клуба, энергічная дзяўчына. Можа тыя некаторыя слаянцы не бачаць розніцы паміж клубам «Руху» і крамаю ГС-у? (Піць і балаганіць).

Усе гэтыя перашкоды адбіваюць ахвоту ў маладых да аматарскай працы. У Слоі няма школы, няма настаўнікаў, няма інтэлігенцыі, няма моцных палітычных арганізацый. Няма ў каго прасіць падмогі. У такой сітуацыі трэба тым болей быць дружнымі, бо ніхто сюды не прыедзе і не створыць ні новага мастацкага гуртка, ні добрага клуба.

Слоя цяпер мае чым ганарыцца. Не можна дапусціцца да таго, каб загінула ўсё тое культурнае, чаго ўжо дабіліся актыўныя слаянцы. Думаю, што і дарогу тую за Азярком можна было б ратаваць, калі б выступіць дружна... (ся)




### ПРА ПГР-Ы

Сельскагаспадарчыя ўлады Беластоцкага ваяводства прадбачвалі, што мінулы гаспадарчы год 53 ПГР-ы закончаць шматзначным прыбыткам. У 89 ПГР-ах планавалі яны затраты на суму 49 мільёнаў зл. Фактычна аказалася, што толькі 82 ПГР-ы не мела прыбытку. Такім чынам, планавыя затраты ў ПГР-ах на Беласточчыне паменшыліся ў мінулым годзе на звыш 2 мільёны зл.

### ПРА МЛЫНЫ

Млын заўсёды быў неадлучным элементам гаспадарчага краявіду нашай вёскі. Зараз на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства працуе 89 (на 93 існуючыя) вясковыя млыны, якімі загадваюць рады нарадовыя. У мінулым годзе змалолі яны 583 тысячы 393 цэнтнеры збожжа. Аказваецца, што сяляне ўсё менш наведваюць млыны. Яны болей ахвотна купляюць хлеб у вясковых крамах.

### ПРА ХЛЕБ

Прадаўшчыца Ядвіга Цеханоўская з вясковай крамы ў Валілах (Беластоцкі павет) гаворыць, што прадала б яна ў дзень каля 120 кг хлеба. Аднак у краму дастаўляюць у 2—3 разы менш. У той дзень, у які давялося нам пабываць у краме, жыхары Валіл раскупілі хлеб на працягу гадзіны часу.

### ПРА СІЛАС

У Валілаўскім ПГР-ы сказалі нам, што дасканала ўдаецца ім сілас з травы. На сілас адводзяць яны другі і трэці пакосы. Сіласуюць таксама палову і іншыя прадукты, якія застаюцца ў час сельскагаспадарчай вытворчасці.

### ПРА ПАСБІШЧЫ

Зялёная, сакавітая трава з'яўляецца найбольш вартасным кормам. Пасбішчы аднак найлепш перагарадзіць на вялікую колькасць паасобных секцый — кватэр. Тады каровы не будуць бескарысна затоптваць травы. Каб прывучыць сялян да гэтага метаду, грамадскія заатэхнікі абавязаны на дзяржаўны кошт наладжваць прыкладныя, паказовыя пасбішчы. Заатэхнік Сяргей Гацько з Гарадка наракае, што сяляне ў яго раёне дзеяння зусім не цікавяцца гэтымі вопытамі. А можа ён сам не патрапіў заахвоціць іх да гэтага карыснага мерапрыемства?

### ПРА ГРОШЫ ДЛЯ АГРАНОМАЎ

На зарплату для сельскай гаспадарчай службы ў грамадскіх радах на Беласточчыне прышлося выдаць ў мінулым годзе звыш 27 мільёнаў зл. Гэта на 2 млн зл. менш, як планавалася. Асабліва не былі выкарыстаны грошы на распаўсюджванне сярод сялян сельскагаспадарчых ведаў.

### ПРА ЎГНАЕННІ

На тэрыторыі ГРН Гарадок у гэтым гаспадарчым годзе планавалася прадаць сялянам 555 тон штучных угнаенняў. Гэта мела забяспечыць 90 кг хімічна чыстага рэчыва на кожны гектар поля. У сапраўднасці гаспадары купілі штучных угнаенняў менш аж на 20%. (вр)

**Беларусіяна**

## Новая кніжка Васіля Быкава

Днямі ў кнігарнях з'явілася новая кніжка беларускага пісьменніка ў перакладзе на польскую мову. Гэтым разам — тры аповесці Васіля Быкава — «Альпійская балада», «Пастка» і «Пракятая вышыня».

Кніжка прыгожа аформлена, у прыемным фармаце. Выдаў яе Дзяржаўны выдавецкі інстытут (PIW) у серыі «Сучасная сусветная проза», што падкрэслівае ранг беларускага пісьменніка. Яго месца адзначае таксама кароткая характарыстыка пісьменніка, змешчаная ў кніжцы... «Належыць да перадавых прадстаўнікоў маладой савецкай прозы, — чытаем у ёй. — Быкаў заняўся выключна ваеннай тэматыкай, цікавіць яго асабліва псіхіка чалавека, які прыймаў удзел у вайне. Умее пераканаўча паказаць трагедыю герояў у сітуацыях бязвыхадных, гранічачых са смерцю, не прымяняючы стылістычных выкрутасаў. Піша з добрым веданнем справы, з эпіцкай суровасцю, з вялікай эмацыянальнай дынамікай...»

Васіль Быкаў ужо вядомы польскаму чытачу па выданай гэтым жа выдавецтвам у 1963 годзе кніжцы п.з. «Трэцяя ракета». Новае выданне павінна прынесці яму і беларускай літаратуры яшчэ большую вядомасць.

Новыя творы Быкава пераклаў Віктар Варашыльскі. (рл)

**Легенды вёскі**

## АДКУЛЬ ЗУБРЫ?

Вёска Зубры ў Беластоцкім павеце мае сваю легенду. Паводле гэтай легенды, жылі тут некалі тыя, што ўцяклі ад паншчыны. Свае сялібы будавалі яны на сухіх грудках пасярод недаступнай дрыгвы, якая выпаўняла тады вялізную даліну паміж цудоўнымі сасновымі пагоркамі Мастаўлянскай ваколіцы. Далінаю гэтаю і зараз працякае малы ручай: даўней выбіваліся тут незлічоныя «здраі», крыніцы, у густаальшынавым зацені.

Калі людзям гэтым пагражала небяспека з боку помслівых паноў, прадраліся яны далей, у Страшаўскія лясныя лугавыя разлогі. Потым вярталіся на сваё абжытае месца. Такі быў пачатак вёскі Зубры.

Легенда падказвае, што назва вёскі ўзялася ад прыраўнання тых людзей да зуброў, якіх нялёгка перамагчы, схапіць.

Найбольш даўнім прозвішчам зуброўскім з'яўляецца прозвішча Талуць. Род Талуцёў вялікі. Першыя хаты размешчаны якраз паблізу даўнейшых дрыгвяна-альшынавых гушчароў. У наш век вёска пачала як бы выбудоўвацца на больш сухое і высокае месца.

Гэту цікавую і прыгожую легенду павінны падрабязна запісаць вучні мясцовай школы, якія пад кіраўніцтвам настаўнікаў змаглі б скласці біяграфію роднай мясціны, пачынаючы ад яе легендарных пачаткаў. (ся)



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЛІНЬ

А можа так што-небудзь з рыбкі? Але з якой? Сёння з пагарджанага ліня.

Усім вядома, што лінь крыху пахне балотам, і гэта адстрашвае ад яго многіх смакошаў рыбы. Кажуць, што каб пазбыцца гэтага запаху, трэба яшчэ жывога ліня мачыць у малацэ. Невядома аднак, што падумаў бы пра нас сам лінь, ды і мы не ўсе маем сэрца мучыць рыбу. Уласна кажучы, сваісты запах ліня нічуць не перашкаджае. Зрэшты, на тое ён і лінь...

Ёсць яшчэ і другая справа, якая адстрашвае нас ад гэтай рыбы. Лінь мае вельмі дробную луску, і таму яго цяжка чысціць. Ведаю такіх, што смажаць ліня, не ачышчаючы яго ад лускі, скурка атрымліваецца больш цвёрдай, але есці можна. Мы аднак на ўсялякі выпадак прапануем ліня ачысціць ад лускі. А каб лепш чысціўся, можна яго на секунду апусціць у кіпяток. Ачысціўшы ліня і выняўшы з яго ўнутранасці, кроім яго на кавалкі і солім даючы пастаяць мінут 20.

І цяпер падаем два дасканалыя, смачныя рэцэпты:

1) Лінь са смятанай. Кавалкі рыбы. памачыўшы ў муцэ, смажым у тлушчы. Калі рыба будзе мець залатую скурку, залíваем яе на патэльні смятанай і ўстаўляем на паўгадзіны ў духоўку. Перад тым, як падаем на стол, трэба яшчэ пасыпаць рыбу дробна нарэзанай пятрушкай. Падаем з варанай бульбай.

2) Лінь па-нельсонску.

Гэты спосаб падрыхтоўкі ліня з'яўляецца крыху больш працахлонны, чым першы. Чаго аднак не зробіш для сваіх бліжніх!

Што лінь будзе з грыбамі, аб гэтым сведчыць ужо сама назва (калі ёсць слова «нельсон» — значыць будуць грыбы). Таму, падсмажыўшы ліня (ачышчанага раней, падзеленага на кавалкі, пасоленага і памочанага ў муцэ), мы вымушаны заняцца грыбамі. Бярэм іх 5—6 штук і варым, пакуль не стануць мяккія. Калі зварацца, кроім іх на дробныя кавалачкі.

Цяпер бярэм каструлю і ўкладаем у ёй папарадку: спачатку пласт сырой бульбы, абабранай і парэзанай на скрылёчкі, на бульбу кладзем крыху нарэзанай цыбулі, а на цыбулю кладзем падсмажанага ліня; пасля ізноў бульбу і цыбулю.

Каб лінь быў нельсонскі, залíваем усё гэта наварам з грыбоў разам з кавалачкамі грыбоў. Перад гэтым не забыцца ўсё пасаліць.

Найлепш было б цяпер уставіць каструлю ў духоўку (хаця можна варыць і на пліце). Факт, што ўсё тое, што знаходзіцца ў нашай каструлі, павінна тушыцца на слабым агні, пакуль аж бульба не стане мяккая.

Больш-менш у палове варкі залíваем патраву смятанай. Прыемнага апетыту!

*Гаспадыня*

---

Амаль тры чвэрці нашай Зямлі-матулі знаходзіцца пад вадой. Якая яна там, якія тайны хавае перад людскім вокам пад гэтым надзейным вадзяным пакрывалам?

Усяго яшчэ не ведаем — нават цяпер, калі вядома ўжо, якая паверхня далёкага Месяца. Аднак тое, што ўдалося ўстанавіць вучонным, здзіўляе сваёй разнавіднасцю. На дне акіянаў і мораў, пад ільдамі Арктыкі і Антарктыды знайшлі яны розныя горныя хрыбты, паўвостравы, гіганцкія жолубы і раўніны.

Самай высокай гарой на свеце лічаць Эверэст, або Джомолунгма — як яго называюць гімалайцы. Узвышаецца ён на 8882 метры. Аказваецца, што вышэйшая ад Эверэсту вулканічная гара Маўна — Кеа, якая вырастае з дна Ціхага акіяна. Яе вышыня — 9700 метраў.

А глыбіня?

# Пад вадой акіянаў

Тут таксама рэкорды б'е Ціхі акіян. У яго дне знаходзяцца дзіўныя трэшчыны гіганцкіх размераў, якія па сваёй форме падобны да жолубаў і таму іх так называюць. Рэкордная глыбіня ў Марыянскім жолубе — 11022 метраў ад паверхні вады. Лічачы ад паверхні дна гэтыя жолубы дасягаюць глыбіні 3 тысячы метраў, іх шырыня — да 45 кіламетраў, а даўжыня — звыш 5 тысяч кіламетраў. Гэта проста гіганцкія падводныя рэчкі, якіх няма на паверхні зямлі. У паўночным раёне Ціхага акіяна знаходзяцца аж 4 такія жолубы. Размешчаны яны амаль паралельна.

Каб была магчымасць прасачыць дакладна геалагічную пабудову іх абрывістых берагоў, удалося б выявіць не адну тайну нашай Зямлі. Аказваецца, што патрапім запускаць ракеты на другія планеты, прылуніцца на Месяцы, але дабрацца да дна акіяна ўсё яшчэ нам не ўдаецца. Пакуль што чалавечае вока выручае электронная радыёлакацыйная тэхніка. Яна аднак нямая і сляпая, гаварыць патрапіць толькі лікамі, дык усяго заўважыць і сцвердзіць не можа.

Звяртаемся аднак — хаця думкамі — на дно акіяна, — на гэты раз Атлантычнага. Пад тоўстым слоем яго водаў, менш-больш пасярэдзіне, ад паўночнага аж да паўднёвага полюсаў праходзіць магутны горны хрыбет, шырынёю ад 500 да 2000 км. Такіх гор дарэмна шукаць над вадой. Горныя хрыбты знаходзяцца на дне кожнага акіяна. Разам яны састаўляюць горны ланцуг даўжынёю ў 60 тысяч кіламетраў. Дзе ж раўняцца з ім Альпам, Андам, Кардыльерам, Гімалаям і Цянь-Шаню разам узятым?! Гэтыя падводныя горы звязваюць у адно праз паўночны полюс Азію з Амерыкай.

Пад ільдом Антарктыкі таксама знаходзяцца вялікія горы, ды ўстаноўлена, што на Антарктыдзе на многа менш «зямлі», як раней меркавалі.

Аказваецца тады, што вонкавы воблік нашай зямной планеты вельмі неаднастайны. Розніца між самым высокім і самым нізкім яе пунктам дасягае амаль 20 тысяч метраў. І як жа цяпер верыць, што зямля з'яўляецца круглым шарам? Яна такая толькі з касмічнай вышыні.

(вр)



*Частка дна Ціхага акіяна, якая прымыкае да Амерыкі. Чорныя царапінкі — гэта менавіта гіганцкія жолубы. Відаць таксама горныя хрыбты.*

---

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### АНТЫБАНАЛЬНАСЦЬ?



Адзін малады француз сканструяваў самаход у выглядзе шара, на хадулях і да таго з электроннымі прыладамі. Дазваляюць яны вывесці машыну на тры хуткасці: 20, 25 і 45 км/гадз. Захапленне і... весялосць ля Эйфелевай вежы выклікаў факт, што самаход можа... танцаваць, кружачыся навокал сваёй восі і ўзнімаючыся на колаххадулях. Як даказвае стваральнік гэтага дзіва — самаход мае быць супрацьпастаўленнем банальнасці, якая ў галіне матарызацыі прадстаўляе сённяшняя тэхніка...

### БЕЛЫ КРАКАДЗІЛ

Альбіносы ў жывёльным свеце сустракаюцца. Белыя бываюць і вароны, і вераб'і, і нават, паводле чутак, — ваўкі. Але белы кракадзіл — гэта рэдкасць. Дададзім: не толькі рэдкасць, але яшчэ і адзін з галоўных атракцыёнаў у Штутгарцкім заапарку. Магчыма, гэты пяцігадовы двухметровы альбінос — адзіная «белая варона» ў царстве кракадзілаў (ФРГ).

### БІФШТЭКСЫ З ВОЎНЫ

У чыстым стане воўна жывёлы мае амаль 100 працэнтаў бялкоў. Магчыма, што з цягам часу з яе пачнуць выраблять страву: нядаўна знойдзен спосаб хімічнага ператварэння «залатога руна» ў прыдатны для яго валакністы бялок.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...карэнні шмат якіх дрэў глыбока ідуць у зямлю. Па звестках, якія вядомы спецыялістам-лесаводам, рэкорд належыць акацыі, што расце ў паўднёва-заходняй Афрыцы. Яе карэнні праходзяць на глыбіню 68 метраў.

...лекі, што ўжываюцца пры хваробах сэрца, гэта больш чым на 80 працэнтаў прэпараты з раслін.

...для здымкі атамных выбухаў распрацаваны затвор, які можа даць вытрымкі ў мільённыя долі секунды.

...У сталіцы Эквадора да гэтага часу, як каштоўная рэліквія, захоўваецца гліняны гаршчок, у якім вырашчаны першы куст пшаніцы на амерыканскім кантыненце?

...Найдаўжэйшай ракой на свеце ёсць Місісіпі. Але ёсць і найкарацейшая — у СССР. Называецца Рэпруа і ўпадае ў Чорнае Мора ў курорце Гагра.

---

## Чвэрць стагоддзя назад

Л. БЕЗЫМЕНСКІ




### ЗУБЫ ГІТЛЕРА

Камісія правяла судова-медыцынскае даследаванне трупа Гітлера.

На вельмі змененым агнём целе — бачных прыкмет цяжкіх смяротных пашкоджанняў або захворванняў — не выяўлена.

Наяўнасць у поласці рота рэшткаў раздушанай шкляной ампулы, наяўнасць такіх жа ампул у поласці рота іншых трупаў, яўны пах горкага міндалю ад трупаў і вынікі судова-хімічнага даследавання ўнутранасцей з выяўленнем цыяністых злучэнняў — дазваляе прыйсці камісіі да заключэння, што ў даным выпадку смерць наступіла ў выніку атручвання цыяністымі злучэннямі.

На гэтым этапе мы павінны пазнаёміцца з двума савецкімі афіцэрамі, якія адыгралі не малую ролю ў нашай гісторыі. Гэта — Андрэй Севасцьянавіч Мірашнічэнка, начальнік контрразведкі 3-й ударнай арміі, і яго намеснік Васіль Іванавіч Гарбушын. Ім патрэбна было ўстанавіць: ці сапраўды знойдзеныя трупы — трупы Гітлера і Браун.

...Як расказвае Васіль Іванавіч Гарбушын, доказы вырашылі шукаць на падставе рэкамендацыі медыцынскіх экспертаў. Анатаміруючы трупы, урачы вынялі сківіцы з мноствам мосцікаў, каронак і пломбаў. Анатамічныя доказы былі важным арыенцірам. Але як праверыць, што гэта сківіцы Гітлера і Браун? Адзінае, што дакладна было вядома, — на працягу некалькіх гадоў Гітлера лячыў прафесар Айкен, спецыяліст па вуху, горлу, носу. Па гэтаму арыенціру вырашыла пайсці група Гарбушына. Вось яго расказ:

... «Раніцай 9 мая мы выехалі на росшукі дэнтыстаў Гітлера. У адной з берлінскіх клінік мы сустрэліся з яе кіраўніком, прафесарам Айкенам. У гутарцы высветлілася, што асабістым зубным урачом Гітлера быў прафесар Блашке. Тут жа мы накіраваліся ў клініку гэтага прафесара. Па дручэнню прафесара Айкена нас туды суправаджаў яго супрацоўнік, малады балгарын, што навучаўся ў Берліне і які застаўся там з выпадку вайны.

У клініцы прафесара Блашке нас сустрэў доктар Брук. Даведаўшыся, што мы прыбылі для сустрэчы з яго шэфам па важнай для савецкага камандавання справе, Брук сказаў, што самога прафесара ў клініцы няма, і запытаў ці не можа яго замяніць асістэнтка прафесара — Кетэ Хойзерман. Я папрасіў запрасіць яе на гутарку. Па яе быў паслан студэнт-балгарын і неўзабаве яна з'явілася.

— Дзе знаходзіцца гісторыя хваробы зубоў Адольфа Гітлера? — запытаў я Кетэ Хойзерман.

— Тут, у картачцы, — адказала яна.

Хутка перабраўшы картатэку, Хойзерман дастала са скрыні адзін з лісткоў, які аказаўся гісторыяй хваробы Адольфа Гітлера. Запісы ў гісторыі сведчылі, што ў фюрэра былі даволі папсаваныя, чыненыя-перачыненыя зубы.

Патрэбны былі яшчэ і рэнтгенаўскія здымкі зубоў Гітлера, але іх у клініцы не аказалася. На маё пытанне, дзе іх адшукаць, Кетэ Хойзерман адказала, што яны, напэўна, захоўваюцца ў кабінеце прафесара Блашке ў будынку рэйхсканцылярыі.

Не затрымліваючыся ў клініцы і забраўшы з сабой Кетэ Хойзерман, мы паехалі ў рэйхсканцылярыю. Тут мы спусціліся ў падзямелле, адшукалі зубаўрачэбны кабінет прафесара Блашке і з дапамогай Кетэ Хойзерман неўзабаве знайшлі рэнтгенаўскія здымкі зубоў фюрэра і некалькі гатовых залатых каронак, якія дантыст не паспеў яму паставіць.

Кетэ Хойзерман паведаміла мне, што пратэзістам, які вырабляў каронкі і масты для Гітлера і Евы Браун, быў зубны тэхнік Фрыц Эхтман, адрас якога ёй вядомы. Мы паехалі да Эхтмана і засталі яго дома. Растлумачыўшы, для чаго мы прыбылі, я запрасіў яго паехаць з намі. Ён ахвотна згадзіўся.

Хойзерман і Эхтмана я дапытваў асобна. У допыце ўдзельнічаў і маёр Быстроў.

Адказваючы на мае пытанні, Кетэ Хойзерман і Фрыц Эхтман падрабязна апісалі зубы Гітлера па памяці. Іх апісанні мосцікаў, каронак і зубных пломбаў дакладна супадалі з запісамі ў гісторыі хваробы і з рэнтгенаўскімі здымкамі, што былі ў нашым распараджэнні. Затым мы прад'явілі ім для апазнання сківіцы, узятыя ў мужчынскага трупа. Хойзерман і Эхтман безагаворачна апазналі, што яны належаць Адольфу Гітлеру.

Пасля гэтага ў такім жа парадку мы папрасілі дантыстаў апісаць зубы Евы Браун, і, калі абодва падрабязна адказалі на наша пытанне, прад'явілі ім залаты мосцік, зняты пры анатаміраванні з зубоў жаночага трупа.

Кетэ Хойзерман і Фрыц Эхтман адразу сказалі, што гэты зубны пратэз належыць Еве Браун. Пры гэтым Фрыц Эхтман дадаў, што своеасаблівая канструкцыя мосціка, зробленага для Евы Браун, — яго ўласнае вынаходніцтва і што падобнага спосабу мацавання ніхто з пратэзістаў яшчэ не выкарыстоўваў.

Пасля ўсяго гэтага зноў сабраліся нашы эксперты-медыкі. Даследаваўшы гісторыю хваробы, рэнтгенаўскія здымкі і сківіцы з зубамі, знятыя з абгарэлага мужчынскага трупа, знойдзенага ў садзе рэйхсканцылярыі 4 мая, эксперты прыйшлі да канчатковага вываду, што зубы гэтыя належаць Адольфу Гітлеру».

У той жа дзень, 11-га мая, Хойзерман дапытаў доктар Ф. І. Шкараўскі. Вось што ён успамінае:

# ТРЫБУНА чытачоў

### КАНТРАКТАЦЫЯ

У некаторых вёсках ГРН Міхалова добра ідзе кантрактацыя збожжа. Пянькі і Новая Воля перакрочылі ўжо 90% плану, а Азяблы закантрактавалі 100% запланаваных збожжавых культур. На апошнім месцы знаходзіцца Саколе. Праўда, і ў Казімераве дрэнна з кантрактацыяй. Але гэта не з віны гаспадароў. Справа ў тым, што на іх землях вельмі мокра. Некаторыя з сялян Казімерава не пасеялі аўса і не пасадзілі бульбы толькі таму, бо так там мокра, што нават трактар прыходзілася выцягваць з раскіслай зямлі. (мм)

### ПАДЗЯКА ДЛЯ ЮРЫЯ МІКАЛАЕВА

Юры Мікалаеў, які жыве ў Беластоку на Нарэўскай вуліцы, перадаў для бібліятэкі Галоўнага праўлення БГКТ больш як 400 кніжак. БГКТ складае Юрыю Мікалаеву шчырую падзяку за гэты вялікі падарунак.

### ПРАЛЬКІ

Тэхніка аблягчае жыццё жанчынам у штодзённай працы. Асабліва сціральныя машыны (пралькі) карыстаюцца вялікай папулярнасцю і іх на нашых вёсках штораз больш. Напрыклад, у Карыцісках пральку мае кожная трэцяя сям'я. Халадзільнікі (лядоўкі) таксама ўжо купляюцца сялянамі значна больш. (сс)

### ВУЧНІ І НАСТАЎНІЦА

Добра вядзе навучанне і выхаваўчую работу сярод вучняў настаўніца дзернякоўскай школы Зіна Тамашэвіч.

Настаўніца шмат папрацавала, каб развіць чытальніцтва сярод школьнікаў і забяспечыць бібліятэку цікавымі кніжкамі. Цяпер бібліятэка налічвае 900 кніжак, у тым 100 кніжак на беларускай мове.

Сярод вучняў найбольш чытаюць Крыся Карповіч, Уладзімір Карповіч, Бася Храноўская, Міраслаў Трахімчук і Юрка Карповіч. Каб заахвоціць вучняў да чытання, настаўніца высвятляе каляровыя клішы з казкамі, прыгодніцкімі апавяданнямі, а таксама такія, якія датычаць гісторыі Польшчы і большых пазіцый школьнай лектуры. Калі адбываўся ўрок, прысвечаны Ул. Леніну, настаўніца карысталася праектарам, і вучні пабачылі мясціны, дзе прабываў Ленін, выступленні Леніна на рабочых мітынгах і г.д. Пасля ўрокаў моладзь сама рабіла насценгазеты з нагоды Дня маці і міжнароднага дня дзіцяці. Варта падкрэсліць і тое, што школа гэта апякуецца магіламі савецкіх салдат, якія знаходзяцца недалёка ад Дзернякова.

*Янка Цялушэцкі*

### БУДУЕЦЦА БРУК

У вёсцы Меляшкі аднаўляецца вуліца. ГРН у Гарадку аплочвае камень, яго давоз і брукароў, а жыхары вёскі грамадскім чынам прывезлі з бетанярні кравэнжнікі і падвозяць пад брук пясок. У наступным годзе паабапал маставой будуць уложаны хаднікі. (сс)

---

11 мая 1945 года ў той жа хірургічны палявы паходны шпіталь № 496 у Бухе мне была дастаўлена гісторыя хваробы Гітлера. Таксама прывезлі Кетэ Хойзерман, асістэнтку стаматолага Гітлера прафесара Блашке. Яна як спецыяліст-стаматолаг прымала ўдзел у пратэзіраванні зубоў Гітлера. Яна дакладна апісвала асаблівасці пратэза зубоў Гітлера і сама намалявала іх. Мне давялося з ёю нават спрачацца, бо пры вывучэнні зубоў я прапусціў адну дэталь, падліку стальных штыфцікаў. Яна, аказалася, мела рацыю.

Пасля заканчэння тэарэтычнай часткі нашай гутаркі мы перайшлі да часткі практычнай, г. зн. я вырашыў праверыць правільнасць яе паказанняў на саміх пратэзах, якія ў мяне былі схаваны ў пісьмовым стале. Я дастаў са стала і паказаў Хойзерман. Хойзерман яшчэ раз усё дэталёва паўтарыла, аўтарытэтна заявіўшы, што прадстаўлены ёй пратэз сапраўды ёсць пратэз зубоў Гітлера. Малюнак быў зусім ясны — і Хойзерман, і мне, судова-медыцынскаму эксперту».

Пасля допытаў Хойзерман і Эхтмана судова-медыцынскія эксперты ўжо не сумняваліся ў прыналежнасці трупаў. Я запытаў прафесара Краеўскага аб тым, што яму найбольш ярка запомнілася з той памятнай экспертызы.

— Бадай, той горкі пах міндалю, які адчувалі ўсе. Для паталагаанатама або судовага медыка такі пах сведчыць ясна: атручванне цыяністымі злучэннямі...

Камісія доктара Фауста Шкараўскага закончыла работу і далажыла аб яе выніках.

*(Працяг будзе)*

### СЦЯПАН ТРАХІМЮК



Хто з настаўнікаў Бельшчыны не ведае падінспектара асветы Сцяпана Трахімюка? Напэўна, няма такіх. Асабліва добра ведаюць яго выкладчыкі беларускай мовы, бо ён ў інспектараце займаецца гэтай галінай асветы. У мінулым годзе на нарадзе выкладчыкаў беларускай мовы Сцяпан Трахімюк чытаў вельмі цікавы даклад «Аб стане беларускага школьніцтва на Бельшчыне». Дакладчык закрануў шмат істотных спраў, якія патрабуюць вырашэння. І перш за ўсё пытанне, ці вучыць дзяцей беларускай мове з першага ці з другога класа? Сцяпан Трахімюк з'яўляецца актывістам беларускага таварыства і шмат дапамагае ў працы бельскага аддзела і камісіі асветы Галоўнага праўлення БГКТ. (мх)

*фота П. Зіневіч.*

### ТУРЫСТЫЧНЫ СЕЗОН ПАЧАЎСЯ

Белавежа штогод вабіць да сябе многа турыстаў не толькі з нашай краіны, але і з-за мяжы. З думкай аб турыстах прэзідыум ПРН у Гайнаўцы правёў нараду з прадстаўнікамі ўстаноў, паслугі якіх неабходныя для турыстаў. Гэта перш за ўсё сталовыя, бары і ўстановы, якія прадукуюць аранжаду і ліманад.

На нарадзе было сцверджана, што ўсе гэтыя ўстановы добра падрыхтаваліся да прыёму турыстаў. Некаторыя рэстараны, як «Гайнавянка» ў Гайнаўцы, «Зуброўка» ў Белавежы павольшылі колькасць кансумцыйных месцаў, дзякуючы пабудове тарасаў. Добра таксама падрыхтаваўся турыстычны цэнтр у Белавежы «Іва», у якім ёсць рэстаран І катэгорыі і гатэль на 140 чалавек. (мс)




*Дарагое Сэрцайка!*

Чытаю «Ніву» і вельмі хвалю сабе куток «Сардэчных тайнаў». Перадумаўшы, і сам пастанавіў звярнуцца з просьбай, хоць крышку іншага роду, чым большасць лістаў, якія друкуюцца ў кутку.

Здаўна я пражываю ў Быдгашчы. Мне 48 год. Я дагэтуль нежанаты. Проста жыццё так склалася, што не меў я магчымасці ажаніцца.

Нарадзіўся ў Баранавічах, не маю блізкіх, добрых сяброў — таксама не. Усе мае знаёмыя жанатыя, заняты сваімі сямейнымі клопатамі, дык і сустракаемся рэдка. Адчуваю сябе самотным, адзінокім. Работу маю добрую, добра зарабляю, аднак гэта не задавальняе. Вельмі хацеў бы навязаць сяброўства з жанчынай (беларускай, год больш 30-ці), такой жа як і я самотнай, з Беласточчыны, з горада ці вёскі. Думаю, што нават пісьмовае сяброўства дапамагае чалавеку ў жыцці. А тэмы цікавыя, напэўна, знойдуцца.

*Ян Маліноўскі*
*Быдгашч*
*Алея 1-га Мая 31/18*

*Іра з Бельшчыны!*

Не пераймайся тым, што ты худая. 15-гадовыя дзяўчынкі яшчэ ж растуць, а часта вельмі вялікія клопаты ствараюць сваім мамам, бо не хочуць есці. Мо і з табой гэтае здараецца. Калі не, дык не пераймайся, падрасцеш, пасталееш, тады і станеш зграбнай.

*Сэрцайка*

### «ВАРШАЎСКІ ПАН»

Антон Кішкель з Вярхлесся ў Сакольскім павеце жыве са сваёю жонкаю ў даволі цяжкіх умовах. Абое старэнькія. Будынкі развальваюцца. Хата маленькая і цесная. Жыхары вёскі яе грамадскім чынам наладзілі, адрамантавалі саламяную страху. Старыя не думаюць аб тым, каб нешта прыдбаць сабе, каб палепшыць умовы свайго быту. А жыць могуць лепш. Усякімі спосабамі, нават прадаваннем гарэлкі па вышэйшых цэнах збіраюць яны вялікія сумы грошай, але гэтых грошай для сябе не выкарыстоўваюць. Затое імі карыстаецца сын Уладзімір, які жыве ў Варшаве і часамі да іх прыязджае. Жыццё бацькоў сына не цікавіць. Ён нават гідзіцца сваёй хаты. Як прыедзе, дык у хаце бацькоў не начуе, не жыве, ды з бацькамі мала гаворыць. Гаворыць датуль, пакуль не выманіць грошай. І так, схваціць грошы ад бацькоў і зноў уцякае ў Варшаву. Яго назвалі ў вёсцы «варшаўскім панам». Калі прыедзе гэты «варшаўскі пан», усім вядома з якой мэтай ён туды з'явіўся. Хаця б купіў для бацькі які абутак або адзенне за частку гэтых грошай. Але дзе там? Яго цікавяць толькі бацькоўскія грошы, а не іх жыццё. (мх)

### ЧЫСТЫ ДАХОД

ГС у Міхалове кожны год дабіваецца ў сваёй дзейнасці добрых вынікаў. За мінулы год чыстага даходу выпрацавана тут 960 тыс. зл. Каб не прыносіў убыткаў транспарт, які, між іншым, давозіць сялянам мінеральныя ўгнаенні, даход гэты быў бы значна большы. (хх)

### НА СЕСІІ ГРН

4-га чэрвеня у Дубічах Царкоўных адбылася сесія грамадскай рады нарадовай. Былі на ёй прысутныя ўсе радныя грамады. Адкрыў яе старшыня ГРН Мікалай Чыквін, які пераканаўча даказваў, што цяпер найбольш адказнай справай для селяніна з'яўляецца барацьба з пустазеллем і шкоднікамі, якія нішчаць пасевы.

У мінулым годзе было апырскана каля 75% абшару засеяных культур (у тым і бульба). Але брыгада, якая выязджала са спецыяльнай апаратурай і хімічнымі сродкамі, не заўсёды знаходзіла зразуменне сярод сялян. У мінулым годзе не абыйшлося без авантур і лаянак. Некаторыя гаспадары не вераць у патрэбу апырсквання. І трэба было прымаць прымусовыя меры. Старшыня ГРН звяртаўся да сялян з просьбаю, каб кожны з іх дагаварыўся з трактарыстам, калі на яго палетку будуць прымяняцца гэтыя «забегі» і каб кожны падпісаў карту, колькі гектараў апырскана хімічнымі сродкамі.

Згодна з планам, цяпер будзе апырскана 340 га для знішчэння пустазелля і 570 гектараў бульбы, на якую нападае стонка. Удзельнікі сесіі падтрымалі ўсе прапановы старшыні ГРН і абавязаліся актыўна змагацца з пустазеллем і стонкай.

*Мікалай Панфілюк*

### ТАНЦЫ КОЖНЫ ДЗЕНЬ

У Паўночным Востраве на Сакольшчыне кватэруюцца манцёры, якія аднаўляюць у гэтай мясцовасці электрычную лінію. Сярод гэтых манцёраў ёсць адзін музыкант. Надвячоркам, на спецыяльна зробленай да танцаў пляцоўцы насупраць крамы збіраецца моладзь і пачынаюцца музыкі. Прыязджаюць сюды хлопцы і з суседніх вёсак. І так кожны дзень у Паўночным Востраве танцы. Сумна будзе моладзі, калі манцёры скончаць сваю работу і ад'едуць у іншае месца. (мх)



*Вёска Зубры ў Беластоцкім павеце.*
*Фота Я. Цялушэцкі*

### СОЛТЫС

У Яловым у Дуброўскім павеце солтысам з'яўляецца Уладзімір Панасэвіч. Гэту функцыю ў сваім асяроддзі выконвае ён ужо амаль дзесяць год. І выконвае яе добра. Усе жыхары невялікай гэтай вёскі шануюць свайго солтыса перш за ўсё за тое, што ён у ГРН у Ліпску добра клапоціцца аб справах сваёй вёскі.

Уладзімір Панасэвіч з'яўляецца таксама перадавіком у ахове раслін і выкарыстоўвае хімічныя сродкі і спецыяльныя машыны для знішчэння пустазелля і стонкі.

Уладзімір Панасэвіч з'яўляецца таксама актыўным членам гуртка БГКТ. (мх)

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Marynarz Czyżyk" (radz.), 30. VI.—1.VII. „Toast" (polski), 2—3. VII. „Lew pręży się do skoku" (węgierski), 4—5.VII.

**Дубіны**

„Adolf" (franc.), „Wniebowstąpienie" (polski), 4—5.

**Нараўка**

„Morderca na zawołanie" (NRD), „Zwariowałeś Toni" (czeski), 2—5.VII.

**Нарва**

„Milion lat przed naszą erą" (ang.), „Tylko jedno życie" (radz.), 1—5.VII.

**Чыжы**

„Dziewczyna" (węgierski), „Miłość i jazz" (szwedzki), 1—5.VII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Między wrześniem a majem" (polski), „Stawka większa niż życie" (polski), 2—5.VII.

**Арэшкава.**

„Kochałem cię" (radz.), „Stawka większa niż życie" (polski) 4—5.VII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Koniec agenta W4C" (jugosł.), „Szósty lipca" (radz.), 2—5.VII.

**Райск**

„Żyrafa w oknie" (czeski), „Kolekcjoner" (ang.), 2—5.VII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Wierność" (radz.), 30.VI—1.VII. „Ostatni watażka" (bułg.), 2—3.VII. „Grzech Azizy" (ZRA), 4—5.VII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Smarkula" (polski), „Ostatni świadek" (polski), 1—5.VII.

**Шудзялава**

„Manewry Dniepr" (radz.), „Start" (belg.), 2—5.VII.

**Янаў**

„Szczęśliwy Aleksander" (franc), 2—5.VII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Szepczące ściany" (ang.), 30. VI.—1.VII. „Sami swoi" (polski), 2—3.VII. „Ostatni watażka" (bułg.), 4—5.VII.

**Мельнік**

„Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 30.VI.—1.VII. „Królewski błąd" (czeski), 2—3.VII. „2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), 4—5.

**Мілейчыцы**

„Zwali go Alcapone" (jugosł.), 30.VI.—1.VII. „Tajemniczy mnich" (radz.), 2—3.VII. „Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.) 4—5.VII.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7100 W—3

